*Пра бяду і аптымізм Вольгі Янум чытайце на 6-й стар.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 40 (4498)**

19 мая 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*Дзякуй за тое, што Вы прачыталі гэты нумар.*
*Адгукніцеся, калі ў Вас ёсць заўвагі, меркаванні, прапановы, тэмы.*
*Тэл. (8 017) 328 68 71*

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АФІЦЫЙНА

## Каранавірус: памёр 171 пацыент

На ўчарашні дзень Міністэрства аховы здароўя дало такія лічбы па каранавірусе: “У Беларусі на 18 мая выздаравелі і выпісаны 10 тысяч 130 пацыентаў, у якіх раней быў пацверджаны дыягназ COVID-19.

Зарэгістраваны 30 тысяч 572 чалавекі са станоўчым тэстам на COVID-19. Усяго праведзена 364 тысячы 319 тэстаў.

За ўвесь перыяд распаўсюджвання інфекцыі на тэрыторыі краіны памёр 171 пацыент з шэрагам хранічных захворванняў з выяўленай каранавіруснай інфекцыяй”.



ВЫБОРЫ-2020

## Приедут ли на выборы международные наблюдатели?

*Имена кандидатов в президенты Беларуси станут известны в июле. Об этом заявила Лидия Ермошина.*

«В период с 5 по 14 июля Центральная комиссия проведет заседание, и тогда народ узнает списки кандидатов в президенты, – *цитирует belta.by Ермошину*. – Они все получат бесплатное эфирное время на телевидении и радио, газетные площади. Кроме того, ЦИК изготовит информационные буклеты с краткими биографическими данными каждого из кандидатов».

*Приедут ли на выборы международные наблюдатели?*

«Вопрос с иностранными наблюдателями пока не решен с учетом сложной эпидемиологической обстановки. Мы вернемся к нему чуть позже, может быть, в июне», – *отметила глава Центризбиркома.*

ПЕРАСЛЕД

## У ізалятар – як мінімум на месяц

Учора суд Савецкага раёна Гомеля асудзіў блогера Сяргея Ціханоўскага, які адбывае 15-дзённы арышт у ізалятары часовага ўтрымання, яшчэ на 15 сутак арышту.

15 сутак Ціханоўскі атрымаў за адміністрацыйнае правапарушэнне. За якое менавіта і калі яно было здзейснена, у канцылярыі суда ўдакладніць не змаглі, паведамляе TUT.BY.

Такім чынам, Ціханоўскі выйдзе на волю толькі 5 чэрвеня.

Нагадаем, 6 мая Сяргея Ціханоўскага затрымалі пад Магілёвам. Ён змешчаны ў ізалятар часовага ўтрымання горада Гомеля.

ДИПКУРЬЕР

### Чрезвычайный и Полномочный Посол Германии в Беларуси Манфред ХУТЕРЕР ответил на вопросы главного редактора газеты «Народная Воля» Иосифа СЕРЕДИЧА.

## Германия заинтересована в независимой, сильной и процветающей Беларуси

**– Господин Посол, поскольку в эти дни все вокруг только и говорят, что о коронавирусе, то не могу не спросить о Вашем самочувствии и самочувствии сотрудников Вашего дипкорпуса в Беларуси.**

– Слава Богу, пока все сотрудники посольства здоровы. На данный момент это самое главное. Конечно, в связи с риском заражения нам пришлось несколько сократить численность персонала, работающего в офисе. Многие коллеги трудятся дистанционно, из дома. Несмотря на непростую ситуацию, настрой у всех довольно позитивный. Мы стараемся одновременно заботиться о защите здоровья и о функционировании посольства.

Поскольку на сегодняшний день кризис вокруг коронавируса является доминирующей темой, то в связи с этим хотелось бы сказать пару слов. Для Германии, как и для многих стран мира, пандемия коронавируса представляет собой огромный вызов. Речь идет о том, чтобы защитить здоровье населения и одновременно сохранить гражданские свободы и экономическое процветание. И тут каждая страна должна найти свой путь борьбы с вирусом. Единой модели для всех не существует. Однако, как мне кажется, важно доверять ВОЗ и следовать ее рекомендациям.

Не думаю, что эта пандемия обозначит эпохальный поворот, но она повлечет за собой серьезные последствия в сфере международных отношений и глобальной экономики. Существует опасность того, что разрыв между северным и южным полушариями станет еще глубже. Одновременно возникает риск, что вследствие пандемии конкуренция между крупными державами – США, Россией и Китаем – обострится еще сильнее. Это, в частности, особенно касается отношений между США и Китаем. Мы, конечно же, не можем быть заинтересованы в таком развитии событий. Нам необходимо внести свой вклад в снятие обострения этих противоречий.



«КП»

Думаю, что пандемия преподала нам и некоторые важные уроки. Беспрецедентным образом была продемонстрирована уязвимость цепочек поставок в глобальном процессе создания добавленной стоимости. Перед ЕС, таким образом, встает задача вернуть производство в жизненно важных, ключевых областях (таких как медицина) обратно в Европу. Одновременно следует исходить из того, что в отношении определенных общественных товаров (общественных благ) нельзя руководствоваться исключительно логикой достижения прибыли и ее максимального увеличения.

Еще один урок состоит в том, что нам, в Европе, необходимо укреплять центральную роль государств в профилактике заболеваний и защите здоровья населения.

Во время эпидемии атипичной пневмонии в 2003 году я был дипломатом в Пекине. Прекрасно помню китайскую пословицу «Из хорошего может произрасти плохое, а из плохого – хорошее». И действительно, за этим кризисом кроются и шансы. В смысле: я уверен в том, что теперешний кризис, каким бы болезненным он ни являлся, может сделать нас сильнее при условии, что теперь мы будем сотрудничать еще теснее, чем раньше. Так, например, история ЕС показала, что Евросоюз становился сильнее после каждого кризиса. Новые учреждения и механизмы создавались именно после кризисных периодов.

Пандемия является сигналом к действию для международного сотрудничества. Только вместе мы сможем победить пандемию. Здесь девизом должно стать не «власть над другими», а «власть вместе с другими». Солидарность и взаимопомощь особенно важны – в рамках отдельных государств, в ЕС, в отношении соседних с ЕС государств, в частности Беларуси, и во всем мире.

*(Окончание на 2-й стр.)*

РАЗВІТАННЕ

## Бывай, Юрый Анатольевіч...



svaboda.org (RFE/RL)

Пасля працяглай хваробы ў Мінску 17 мая памёр заснавальнік TUT.BY, грамадскі дзеяч і мецэнат Юрый Зісер.

Юрыю Зісеру было 59 гадоў, ён нарадзіўся ў Львове. Яго бацька быў інжынерам, маці – музыкантам. У 1980-х гадах Юрый Зісер пераехаў у Мінск услед за сваёй будучай жонкай, культуролагам Юліяй Чарняўскай.

Некалькі гадоў Юрый Зісер працаваў сістэмным праграмістам у даследчым інстытуце анкалогіі і медыцынскай радыялогіі ў Бараўлянах, займаўся навукай.

У 1992 годзе заснаваў кампанію «Надзейныя праграмы», якая займалася распрацоўкай банкаўскага праграмнага забеспячэння.

Пасля адукацыйнай паездкі ў ЗША ў 1999 годзе загарэўся ідэяй стварыць беларускі Yahoo – так у 2000 годзе з бясплатнай пошты стартаваў партал TUT.BY. Юрый Зісер сам неаднаразова публікаваўся на TUT.BY. Займаў актыўную грамадзянскую пазіцыю.

Стаяў ля вытокаў шэрагу беларускіх і міжнародных інтэрнэт-праектаў. Быў актыўным удзельнікам стартап-руху, ментарам. Актыўна займаўся дабрачыннасцю і мецэнацтвам, але аб гэтай сваёй дзейнасці практычна не расказваў.

У сувязі з эпідэміялагічнай сітуацыяй развітанне з Юрыем Зісерам пройдзе ў вузкім коле. Сям’я Юрыя Зісера просіць ушанаваць яго памяць дома, а замест кветак зрабіць ахвяраванне на барацьбу з COVID-19.

У сваім акаўнце на Facebook жонка Юрыя Зісера Юлія Чарняўская напісала, што яе муж чатыры гады змагаўся з цяжкай хваробай і нядаўна ляжаў у шпіталі.

*«Майго Юры больш няма. Гэта немагчыма. Але тое, што з яго стадыяй і формай хваробы ён пражыў чатыры гады, яшчэ больш немагчыма. Гэта было цудам, які здзіўляў дактароў. Так, ён такі! Ён аптыміст, жыццялюб і герой. Я ганаруся ім, як ганарылася 34 гады і яшчэ 15 дзён. І буду ганарыцца заўсёды.*

*У сувязі з эпідэміяй мы не можам зладзіць адкрытае пахаванне. Прабачце. Хоць Юра памёр ад раку, ён доўга ляжаў у шпіталі, а шпіталяў без віруса цяпер не бывае. Не хочацца падвяргаць нікога небяспецы. Калі эпідэмія схлыне, мы маем намер правесці прыгожы вечар яго памяці, так што словы, якія вы хочаце сказаць, не застануцца нясказанымі.*

*Зараз я не гатова да таго, каб даваць каментарыі і інтэрв’ю, спадзяюся, вы зразумееце, сябры-журналісты. Усім астатнім сябрам дзякую за добрае стаўленне да яго і жаданне падтрымаць. Цяпер мне патрабуюцца сілы і час для годнага развітання, таму не крыўдуйце на тое, што не падымаю слухаўку і не адказваю»,* – напісала Юлія Чарняўская.

***

З глыбокім смуткам развітваюся з **Юрыем Анатольевічам ЗІСЕРАМ**. Ён не аднойчы ішоў насустрач «Народнай Волі». Яго мудрасць, інтэлігентнасць, прафесійнасць, памножаныя на пякучы боль за рэаліі сённяшняга жыцця Беларусі, – тое, што назаўжды застанецца ў маёй памяці аб ім.

Шчырыя спачуванні прыміце, шаноўная Юлія Вісарыёнаўна, уся ваша сям’я і супрацоўнікі кампаніі TUT.BY.

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ, галоўны рэдактар газеты «Народная Воля».**

СТАТЫСТЫКА

## Недалічыліся

Прадпрыемствы канцэрна «Белнафтахім» у першым квартале 2020 года экспартавалі прадукцыі на 921,2 мільёна долараў, што на 55,8 працэнта менш, чым у першым квартале 2019 года.

Канцэрн адзначае, што негатыўны ўплыў на паказчыкі знешняга гандлю аказала зніжэнне фізічных аб’ёмаў экспарту нафтапрадуктаў, падзенне каціровак на нафту маркі Urals на 24 працэнты, уцягванне ў перапрацоўку на НПЗ запланаванай на экспарт беларускай нафты і зніжэнне каціровак і экспартных коштаў на хімічную і нафтахімічную прадукцыю.

ЗДАРЭННІ

## Страшная аварыя пад Барысавам

*Загінулі шэсць чалавек, якія знаходзіліся ў легкавым аўтамабілі.*

Машыну “Рэно”, у якой былі тры хлопцы і тры дзяўчыны, вынесла на сустрэчную паласу, дзе яна і сутыкнулася з аўтамабілем “Джылі” і фурай.

Паводле звестак Следчага камітэта, аўто належала 30-гадоваму жыхару Барысава, якога ў 2018 годзе пазбавілі вадзіцельскага пасведчання за кіраванне ў нецвярозым стане.



Па факце ДТП узбуджана крымінальная справа.

**Віктар ШПАК.**

ДИПКУРЬЕР

Чрезвычайный и Полномочный Посол Германии в Беларуси Манфред ХУТЕРЕР ответил на вопросы главного редактора газеты «Народная Воля» Иосифа СЕРЕДИЧА.

# Германия заинтересована в независимой, сильной и процветающей Беларуси

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

**– Ну а коль Вы, господин Посол, и все сотрудники дипкорпуса в хорошем здравии, то, полагаю, и работается в нашей стране плодотворно. Или есть какие-то проблемы?**

– Все сотрудники посольства с удовольствием работают в Беларуси и считают привилегией трудиться на углубление германо-белорусских отношений. Это несложно благодаря открытости, сердечности и дружелюбию белорусов.

**– До приезда в Минск Вам пришлось поработать дипломатом в таких крупных странах, как Россия, Китай, США, Польша. Назначение в Беларусь было для Вас неожиданностью или послы не выбирают страну пребывания? И вообще – значимость миссии меняется в зависимости от места службы?**

– Назначение Чрезвычайным и Полномочным Послом Германии в Беларуси не стало для меня сюрпризом. Мы с женой действительно хотели получить назначение сюда, так как нам нравится жить в славянском культурном пространстве. Расположенная в самом сердце Европы, по соседству с ЕС, между Востоком и Западом, Беларусь является очень важной страной для Германии. Убежден, что со своей историей, культурой и ментальностью Беларусь может быть очень крепким мостом между Востоком и Западом.

**– На Ваш взгляд, нынешние результаты двусторонних отношений Германии и Беларуси впечатляют?**

– За последние годы германо-белорусские отношения развивались однозначно положительно, и это коснулось всех сфер взаимодействия: политической, культурной и области взаимодействия гражданских обществ наших стран. Необходимо сохранить и углубить эту динамику. Именно в этом заключается, я считаю, моя первостепенная роль как посла. В том, что касается более глубокого понимания Беларуси, то у нас в Германии, да и во всем ЕС, есть желание и необходимость наверстать упущенное. Белорусы гораздо больше знают о немцах, чем немцы – о белорусах. В Германии и в ЕС еще слишком мало замечают динамику развития экономики и общества в Беларуси.

Поэтому я чрезвычайно рад, что в ходе визита Министра иностранных дел Владимира Макея в Германию в октябре 2019 года было принято решение продолжать стратегическое развитие наших отношений. Для этой цели мы создали стратегическую консультативную группу, которая в этом году будет встречаться попеременно в Берлине и в Минске с целью разработать стратегические проекты в политической, экономической и культурной областях. Конечно, мы также будем обсуждать и те темы, по которым у нас иногда разное понимание, как, например, гражданские права и права человека. Я рад, что открытый диалог на эти темы с белорусской стороной возможен.

**– Какие резервы стоит задействовать обоим государствам, чтобы внешнеторговые отношения принесли больше дивидендов?**

– Беларусь должна стать еще известнее в Германии как инвестиционная площадка с большим количеством преимуществ. Кстати, возможно, в результате пандемии вырастет готовность немецких предпринимателей больше инвестировать в страны, находящиеся в непосредственной близости к ЕС, чтобы производственные цепочки оставались географически ближе к Германии.

Кроме того, важно упростить для белорусских предприятий выход на немецкий рынок. Я вижу большой потенциал для более интенсивного сотрудничества во многих сферах: например, в области информационных технологий. Так, скажем, мы могли бы сильнее развивать сотрудничество и налаживание связей между немецкими стартапами и белорусскими IT-компаниями. В Германии наблюдается большая необходимость в дигитализации, и белорусские фирмы могли бы в этом помочь. Но и в области энергетики, в создании экономики замкнутого цикла в соответствии с принципами устойчивого развития и в области науки и техники существует много возможностей. На мой взгляд, особое внимание при этом необходимо уделять поддержке малого и среднего бизнеса. В этом у Германии богатый опыт, которым мы можем поделиться.

Словом, Германия заинтересована в независимой, сильной и процветающей Беларуси.

**– Есть ли предпосылки для обмена в ближайшей перспективе официальными визитами Канцлера Германии и Президента Беларуси?**

– Германия заинтересована в дальнейшем развитии политического диалога с Беларусью на всех уровнях. Стратегическая консультативная группа экспертов внесет свои предложения по этому поводу. Важнейшим событием стал визит в Беларусь Президента Федеративной Республики Германия Франка-Вальтера Штайнмайера в июне 2018 года, который способствовал возникновению многочисленных инициатив для дальнейшего развития двусторонних отношений. Так, например, были достигнуты договоренности с Президентом Лукашенко о создании двусторонней комиссии историков и сохранении Исторической мастерской имени Леонида Левина. Также уже упомянутый визит Министра иностранных дел Беларуси Владимира Макея в Берлин стал важным стимулом для дальнейшего развития сотрудничества. Я настроен оптимистично и считаю возможным создание условий для дальнейших встреч на высшем уровне.

**– Укреплению связей между странами способствуют и «Недели Германии в Беларуси». Не могли бы Вы вкратце прокомментировать их значимость?**

– «Недели Германии в Беларуси» – ежегодная кульминация наших разносторонних культурных связей. Это множество культурных встреч, которые проходят не только в Минске, но и в других регионах Беларуси. Я очень рад, что 10 марта текущего года во Дворце искусства в Минске открылась замечательная выставка об истории немецкого искусства начиная с 1949 года, которую организовал Институт имени Гете в сотрудничестве с Институтом связей с зарубежными странами (IFA). Открытие этой выставки вызвало невероятный резонанс. К сожалению, из-за пандемии коронавируса нам пришлось отменить все остальные запланированные мероприятия. Но я уверен, что мы наверстаем упущенное, когда появится такая возможность.

**– Извините, но не могу не затронуть тему, которая, пожалуй, одинаково волнующа и в некоторой степени болезненна и для нас, белорусов, и для вас, немцев, – это возвращение к той войне, когда наши страны оказались по разные стороны. Минуло 75 лет. Извлекая уроки из той страшной трагедии, какими принципами, на Ваш взгляд, должны руководствоваться нынешние поколения людей, чтобы на планете были мир и спокойствие?**

– Беларусь особенно сильно пострадала в развязанной Германией захватнической войне на уничтожение против Советского Союза. Преступления, совершенные по отношению к населению Беларуси в период нацистской оккупации, никогда не должны быть забыты. Германия безоговорочно признает свою историческую ответственность за все это. Эти темные главы – часть нашей истории, так же как ее светлые страницы. Нельзя переставать помнить об этом. Только те, кто честен с собой и готов осознать свое прошлое, смогут вместе по-новому строить будущее. Это особенно касается молодого поколения. Именно поэтому настолько важно существование таких организаций, как Историческая мастерская в Минске, в которых жертвы и свидетели преступлений национал-социализма рассказывают молодежи о том, что им пришлось пережить. Недавно по поручению Президента Германии Франка-Вальтера Штайнмайера на приеме в резиденции я вручил семи таким свидетелям орден «За заслуги перед Федеративной Республикой Германия». Эта ужасная трагедия должна прежде всего научить нас решительно выступать против любых проявлений расизма и дискриминации инакомыслящих. В международной политике на первом месте всегда должны стоять диалог и дипломатия. Угроза применения насилия или его применение никогда не должны становиться средством достижения целей на международной арене.

**– А теперь, с Вашего позволения, я задам несколько вопросов иного порядка. У Чрезвычайного и Полномочного Посла много функций, но одна из них – как можно ближе знакомиться с ситуацией в стране пребывания, при этом не только нанося визиты высоким должностным лицам, но и используя посещение регионов, отдельных предприятий. Каковы Ваши общие впечатления о Беларуси, ее людях?**

– За 28 лет службы в Федеральном министерстве иностранных дел Германии я поработал во многих странах. Как вы уже заметили, среди них были Россия, Китай, США и Польша. Нигде еще я не встречал людей с такой искренней доброжелательностью и открытостью, как в Беларуси. У белорусов действительно особый характер. Люди, которых мы встречаем, впечатляют нас своей добротой и человечностью, гостеприимством и способностью сопереживать в сочетании с высоким уровнем образования и практичностью.

**– Как адаптировалась в Беларуси Ваша семья? Любопытные читатели «Народной Воли» хотели бы знать, кто Ваша жена по профессии, когда Вы с ней познакомились, не скучает ли она в Минске. Насколько мне известно, вместе с Вами тут и 11-летний сын. Где он продолжает учебу, чем увлекается?..**

– Моя семья очень хорошо чувствует себя в Минске. Для моей жены как слависта и историка, специализирующегося на Восточной Европе, это тоже подходящее место. Именно ежедневные встречи с самыми разными людьми позволяют нам почувствовать, что нам здесь рады. Кстати, я познакомился со своей женой в 1999 году в Германии на русском спектакле – адаптации «Мертвых душ» Гоголя. Мой сын учится в международной школе и очень любит спорт. Здесь, в Минске, у него отличные условия для спортивных занятий.

**– И традиционный вопрос: работа работой, но случается же и свободное время, которое можно использовать и для хобби, и для чего-то другого…**

– К сожалению, на хобби остается не очень много времени, но мне нравится ездить на велосипеде по Минску и окрестностям и заходить в книжные магазины. Моя страсть – историческая и политическая литература. Я решил, что, когда закончу работу в Федеральном министерстве иностранных дел, сам возьмусь за перо.

**– Ваши, господин Посол, пожелания читателям «Народной Воли»…**

– Желаю всем хорошего здоровья и такой жизни, чтобы была возможность реализовывать все свои планы.

**– Спасибо за интервью! И вам крепкого здоровья и успехов в работе на дипломатическом поприще!**

> ***«Мы выйдем из этого кризиса более сильными, если продолжим тесно сотрудничать друг с другом»***

ВЫБОРЫ-2020

Виктор БАБАРИКО:

# «Это маленькая победа!»

*Претендент на президентское кресло Виктор Бабарико вчера отнес в Центризбирком уточненные списки инициативной группы, в которую вошло больше 9 тысяч человек, а точнее – 9.183!*



«Это не просто успех, это пусть маленькая, но очень важная победа, – *говорит бывший банкир Бабарико.* – И в первую очередь это победа над собой. Я прекрасно понимаю, как сложно было вам сделать этот шаг: преодолеть внутренние страхи и переживания, неверие и сомнения, лень и обусловленную законодательством неопределенность моей позиции по многим важным вопросам. Но вы сделали это, а значит, вы – победители! Огромное всем спасибо!

Следите за новостями и берегите себя!»

**Алина ВЕТРОВА.**

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

Олег ГАЙДУКЕВИЧ:

# «Это не рекорд»

*Так прокомментировал рекордное количество записавшихся в инициативную группу Виктора Бабарико еще один претендент на президентскую должность – глава Либерально-демократической партии Беларуси Олег Гайдукевич.*

«9.000 человек в инициативной группе – это не рекорд, ЛДПБ уже регистрировала в 2010-м группу в 10.000 человек, – *говорит Гайдукевич*. – Но практика показала, что при сборе подписей крайне важна управляемость группы. И есть разница между готовностью поддержать и готовностью сутками собирать подписи. Это структура и обучение.

На мой взгляд, 3000–4000 человек – оптимальное количество для организации работы. Поэтому наша группа сегодня состоит из 4058 обученных активистов.

50 претендентов в президенты! Но реальные шансы собрать подписи имеют три-четыре, не больше, а сколько из этих трех-четырех соберет – посмотрим.

И о делах. С 21 мая начинается сбор подписей. Наша инициативная группа зарегистрирована. Мы закупили тысячи масок, перчаток и с 21 мая начинаем работу абсолютно во всех регионах страны».

**Вера ВИР.**

РЭГІЁН

## Бізнес вызначыўся з тым, якая падтрымка патрэбна ў час пандэміі

*Бізнесмены Гродзеншчыны падчас анлайн-кансультацый расказалі, якія льготы неабходны, каб застацца на плыву ва ўмовах пандэміі.*

У савет па прадпрымальніцтве Гродзеншчыны ўваходзяць прадстаўнікі буйнога, сярэдняга і малога бізнесу. Кансультацыі паказалі, што для кожнай групы патрэбны індывідуальныя льготы.

Малы і сярэдні бізнес у час пандэміі паказаў высокую ступень сваёй дзеяздольнасці за кошт мабільнасці. Нягледзячы на тое, што рэнтабельнасць іх прадукцыі невысокая, яна запатрабавана і дазваляе пратрымацца ў цяжкіх умовах існавання. Так, кавярні і рэстараны Гродна прапанавалі вялікія зніжкі на дастаўку харчавання для медыкаў у бальніцы. І на гэтым яшчэ трымаюцца.

Прадстаўнікі гэтай групы прадпрымальнікаў папрасілі перасунуць тэрміны выплаты падаткаў на больш позні час і не ўзнімаць кошт арэнды.

Буйны бізнес перажывае гэты перыяд з большымі складанасцямі. Прадпрыемствы ўкладваюць грошы ў вытворчасць прадукцыі, а атрымліваюць прыбытак пазней, чым звычайна, альбо наогул працуюць на склады. Але прадстаўнікі бізнесу не хочуць закрываць фірмы і губляць супрацоўнікаў, бо аднавіць разарваныя сувязі з партнёрамі і кліентамі, знайсці замену кваліфікаваным работнікам будзе складана. У большасці выпадкаў людзі з разуменнем ставяцца да сітуацыі і працягваюць працаваць па доўгатэрміновых кантрактах, каб не губляць рынкі.

Бізнесмены просяць прадаставіць крэдытныя канікулы і адтэрміноўку аплаты падаткаў. Зыходзячы са справаздач прадстаўнікоў бізнес-колаў Гродзеншчыны, падчас пандэміі найбольш пацярпелі дрэваапрацоўчая і хімічная вытворчасць, буйныя прадпрыемствы лёгкай прамысловасці, грузаперавозчыкі і ўладальнікі гатэляў.

Як вядома, пакет антыкрызісных мер, накіраваны на падтрымку бізнесу, будуць прымаць мясцовыя ўлады.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ПРИНЦИПИАЛЬНЫЙ ВЗГЛЯД

# Михаил Орда – защитник трудящихся или власти?



В 1980 году на советских телеэкранах демонстрировали трехсерийный фильм со странным названием «Рафферти». Хотя ничего странного не было: фильм, как и роман, ставший основой сценария, рассказывал о судьбе профсоюзного босса, допрашиваемого сенатской комиссией на предмет коррумпированности.

В профсоюзах – у них там – оказывается, может быть коррупция. И ее можно проследить. Ибо коррупция для профсоюзного деятеля – это сознательный союз защитников интересов трудящихся с работодателями и лоббирование интересов работодателей вопреки интересам трудящихся. Только там эти работодатели (действие происходит в 1960-е годы) – мафия.

В общем, Джека Рафферти в конце концов пристрелили.

На самом деле трудно себе представить, чтобы сегодня кто-либо из американских профсоюзных деятелей заключил союз с какой-то политической силой или крупным бизнесом. Он немедленно потеряет свой пост в профсоюзе. А уж какой скандал возникнет, если профсоюзы ввяжутся в предвыборную кампанию на стороне кого-либо из кандидатов в президенты! Потому что какой ты будешь защитник интересов трудящихся, например, государственных служащих, если ты повязан с победителем?

У нас ситуация еще круче. У нас государство является крупнейшим работодателем. Причем фактически – монополистом. А учитывая абсолютную централизацию принятия решений и распределения финансов, можно утверждать, что работодатель в данном случае – не совокупность государственных институтов (мэры и губернаторы у нас не выбираются, а назначаются свыше практически на безальтернативной основе), а высшая власть как таковая. И высшую власть возглавляет, как известно, Александр Григорьевич Лукашенко. А предвыборную кампанию Лукашенко как одного из кандидатов на то, чтобы вновь получить в свои руки эту самую высшую власть, возглавляет руководитель крупнейшего профсоюзного объединения страны Михаил Орда.

Причем возглавляет уже второй раз.

Вы действительно уверены в том, что он будет объективно относиться к социальной политике, которую будет проводить Лукашенко, – то есть будет критиковать его там, где Лукашенко будет наступать на права трудящихся?

Вспомним: именно господин М.Орда – руководитель ФПБ – занимал свой нынешний пост в тот момент, когда пресловутая мадам Щеткина разработала действующую пенсионную реформу. Суть реформы мы все помним: не просто была поднята возрастная планка для получения пенсии, но еще и увеличен страховой стаж – без учета того, в какое время пришлось работать многим людям, вступающим на финишную предпенсионную прямую. Сделано это было под молчаливый профсоюзный «одобрям-с». То есть, возможно, профсоюзы действительно пытались возвысить голос, но делалось это как-то тихо и незаметно для будущих пенсионеров. И то же самое происходило (или не происходило) в связи с принятием пресловутого «декрета о тунеядцах», когда под первоначальную его редакцию подпали многие из тех, кого тунеядцами язык просто не повернется назвать.

Белорусские профсоюзы сегодня – так сказать, наследство своевременно упокоившейся КПСС, – когда глава профсоюзного объединения соответствующего уровня входил в состав партийного комитета того же уровня. Роль профсоюзов сводилась к распределению путевок в ведомственные санатории, организации досуговых мероприятий и тому подобным приятным мелочам. Разумеется, допускались профкомы к распределению некоторых благ – жилья, личного автотранспорта, денежных премий.

Единственный раз на моей памяти профсоюзы действительно вошли в конфликт с государством как работодателем. Случилось это во времена премьерства Вячеслава Кебича, а конфликтующей стороной оказался профсоюз работников образования во главе с тогдашним его лидером Тамарой Чоботовой. Дело дошло до объявления готовности к всеобщей отраслевой забастовке. Но поскольку компромисс всегда есть готовность к взаимной уступке сторон, в тот момент правительство, переговоры от имени которого вел вице-премьер Михаил Демчук, было вынуждено пойти на некоторые шаги, чтобы удовлетворить требования профсоюзов, а республиканский комитет согласился с тем, что требования удовлетворены были не полностью.

Все остались недовольны. Но это и был нормальный социальный диалог.

Представьте себе сейчас руководителя отраслевого профсоюза, который попытается качать права перед властью. Да ему немедленно возразят:

– Друг мой, а не ваш ли руководитель эту самую власть прославлял во время избирательной кампании? Не он ли подписи собирал, чтобы ее легитимизировать на очередной срок? Он? Вот к нему все претензии.

Слава богу, что мы живем не в Америке 1960-х. Там новому Джеку Рафферти – нет, я не о М.Орде в данном случае, а именно о Рафферти, – если не пуля досталась бы (народ все-таки стал гуманнее), то уж точно морду набили бы. При одной только попытке встать на скользкий путь, неизбежно ведущий к предательству интересов членов профсоюза.

Потому что эти интересы – вовсе не только, говоря языком все тех же классиков, в пиве. Они – в социальной политике как таковой. И в данном случае профсоюзы и государство обязаны находиться по разные стороны баррикад, а не изображать из себя продукты в одной и той же потребительской корзине.

**Александр ФЕДУТА**

ХТО ЁСЦЬ ХТО

## Юрый ГАНЦЭВІЧ, прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта:

# «Універсітэтаў я не канчаў, яны мне без патрэбы...»

15 мая Цэнтрвыбаркам зарэгістраваў ініцыятыўную групу фермера з Гомельскага раёна Юрыя Ганцэвіча. Як толькі пра гэта стала вядома, я патэлефанаваў яму, каб узяць інтэрв'ю. Юрый стаў аднеквацца, прапанаваў перанесці размову на наступны дзень. Спаслаўся на тое, што прыехаў са сталіцы, не выспаўся, пачувае сябе не надта добра. Што ж, бывае…

Назаўтра Ганцэвіч стаў казаць, што яму не да інтэрв'ю.

– У мяне гаспадарка – каровы, козы. Столькі працы! Я наогул не хачу, каб да мяне прыязджалі, фатаграфавалі.

Пярэчу: як жа так, замахнуцца на вышэйшую пасаду ў дзяржаве і цурацца публічнасці – нейкая несусвеціца атрымліваецца. Юрый сваё: ён не дома, а ў іншым горадзе, за ім цікуюць, але хто і з якой нагоды – не ўдакладніў. І тэлефон яго нібыта «слухаюць», бо чуе папіскванне. Маўляў, мы дамовімся пра сустрэчу, а «яны наедуць і заграбуць».

– Вы гэтага для мяне хочаце? – з крыўдай у голасе паўтарыў фермер.

Бачыць бог, я дакладна не хацеў, каб яго «заграблі», таму пагадзіўся на працяг дыялогу ўвечары ў Facebook. Нават напісаў тузін пытанняў, каб патэнцыяльнаму кандыдату ў прэзідэнты было лацвей арыентавацца ў сутнасці будучай размовы.

### Знаёмства

Тут мушу зрабіць невялікае адступленне. Пазнаёміліся мы з Юрыем Ганцэвічам у верасні мінулага года. Адбылося гэта на перадвыбарным пікеце грамадскага актывіста Уладзіміра Непомняшчых, які балатаваўся ў Палату прадстаўнікоў, а сёлета, як і Ганцэвіч, таксама сфарміраваў ініцыятыўную групу, каб збіраць подпісы за вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты.

У той вераснёўскі дзень Юрый прыехаў на пікет у цэнтр горада паглядзець, як гэта – арганізоўваць падобныя вулічныя акцыі, а заадно і заявіць пра сябе, бо таксама наважваўся стаць дэпутатам. Я нават дапамог яму сфармуляваць па-беларуску адзін з лозунгаў пра незайдроснае жыццё фермера. А Юрый у сваю чаргу адшкадаваў мне сваю перадвыбарную ўлётку.

Учытвацца ў напісанае часу не было. Аднак кінулася ў вочы непісьменнае афармленне на рускай мове невялікага тэксту, адсутнасць знакаў прыпынку, няўцямны змест перадвыбарнай праграмы пад агульнай шапкай «Інтарэсы». Але яшчэ больш здзівіла, што ў размове самавылучэнец у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу выказваў шкадаванне наконт развалу былога Саюза.

Не ў маіх правілах, але тады я нават абурыўся: «Вылучацца ў беларускі парламент і шкадаваць пра Саюз – гэта як? Суверэнітэтам сваёй дзяржавы гандляваць?»

### У топ-навінах

Тыдні тры пазней Ганцэвіч патрапіў у топ-навіны байнету. На свой агітацыйны пікет у Гомельскай-Юбілейнай акрузе №31, дзе балатаваўся кандыдатам у дэпутаты, прывёз з суседняй вёскі Пакалюбічы на трактарным прычэпе «музыку», а яшчэ карову і казу.

«Карова – найлепшая ўлётка», – сцвярджаў фермер. Людзі сфатаграфуюць жывёл, зробяць сэлфі, выкладуць усё ў сацыяльныя сеткі – і агітацыя будзе хоць куды!

За Ганцэвіча, як паведамляла пазней акруговая выбарчая камісія, прагаласавалі 4150 чалавек з амаль 50 тысяч гараджан, што прыйшлі на выбары. Гэта 8,3 працэнта. Экзатычная агітацыя няблага кантраставала з высілкамі трох іншых кандыдатаў. Але стаў дэпутатам кіраўнік раённай адміністрацыі.

Падтрымліваў і натхняў Ганцэвіча на парламенцкіх выбарах блогер Сяргей Ціханоўскі. Юрый спадобіўся нават на манер Ціханоўскага заснаваць і весці свой канал на YouTube, які назваў высакамоўна – «Народны дэпутат».

### Жывёла даражэй, чым рэпутацыя

Другі раз бачыўся і размаўляў з Ганцэвічам сёлета ў лютым, калі міліцыя прывезла Юрыя з ізалятара часовага ўтрымання ў суд Чыгуначнага раёна Гомеля. Экс-кандыдата ў дэпутаты затрымалі да суда ў будаўнічай краме за дробны крадзеж і на падставе відэазапісаў з камер назірання склалі два адміністрацыйныя пратаколы.

Ганцэвіч выглядаў стомленым і разгубленым. Скардзіўся, што пачувае сябе блага, бо ў ізалятары «тры дні нічога не еў і не піў». Прасіў таксама зрабіць суд закрытым.

Суддзя Яўген Шаршнёў, які разглядаў адміністрацыйныя пратаколы, перапыніў пасяджэнне. Абвінавачанаму фермеру выклікалі хуткую медыцынскую дапамогу. Ганцэвіча вызвалілі з-пад варты і адпусцілі на двое сутак дахаты для папраўкі стану здароўя. Але ўжо на наступны дзень яго выклікалі ў суд і пакаралі паводле двух пратаколаў адміністрацыйным штрафам у тры базавыя велічыні – 81 рубель.

Юрый так каментаваў рашэнне суда: «Адзін пратакол я прызнаў – не разлічыўся за маток ізастужкі і металёвыя вугалкі. Гаворка з аховай будаўнічай крамы спачатку ішла пра суму 6 рублёў з капейкамі, а пасля аказалася, што гэта недзе каля 19 рублёў. Я гатоў быў заплаціць адразу, каб мяне не затрымлівалі. У мяне каля 80 галоў жывёлы, каровам тэрмін цяліцца. Хто іх дагледзіць, калі мяне няма? Будуць раўці на ўсю вёску. Мне жывёла даражэй, чым рэпутацыя».

Паводле расповеду Ганцэвіча, сітуацыя з яго затрыманнем выглядала так: 21 лютага ён прыехаў у будаўнічую краму набыць пыласос. Патрэбнага не знайшоў. Хадзіў, глядзеў іншыя рэчы, размаўляў з кансультантам у секцыі, дзе прадаюць лінолеум.

«Круціліся там каля мяне нейкія людзі, – запэўніваў фермер. – На выхадзе перастрэлі вартаўнікі, патрабавалі паказаць кішэні. Я адказаў: «Не буду гэтага рабіць – глядзіце самі». Яны выклікалі міліцыю. Былі сведкі. З маёй кішэні і дасталі ізастужку і металёвыя вугалкі».

Юрыя завезлі ў аддзяленне міліцыі Чыгуначнага раёна, сталі складаць пратакол. Паказалі яшчэ адзін акт на крадзеж шпінгалетаў. Відэазапіс з камеры назірання глядзелі, але там нельга было толкам нічога разабраць, сцвярджаў фермер.

### З біяграфіі

Пасля тых судовых пасяджэнняў мінула крыху больш за два месяцы, і фермер Ганцэвіч ізноў у топ-навінах – заявіў пра свой паход у прэзідэнты.

Адшукаў у папцы «Выбары» мінулагоднюю перадвыбарную ўлётку Юрыя Ганцэвіча. У ёй напісана, што нарадзіўся ён



у Гомелі ў 1976 годзе, а ў 1991-м скончыў гарадскую сярэднюю школу №54. Прыкінуў: ого, вундэркінд, у пятнаццаць гадоў скончыў школу. Пішу фермеру ў «прыват»: Юрый Міхайлавіч, патлумачце.

Высветлілася, што ў 1991-м Юрый скончыў толькі 9 класаў і больш у сярэдняй школе №54 не вучыўся. Абраў працоўную сцежку. Уладкаваўся на Завод радыётэхналагічнага аснашчэння (перайменаваны пазней у «Ратон») вучнем слесара, а праз чатыры месяцы быў пераведзены ў слесары II разраду механазборачных работ.

У маі 1992 года Юрый звольніўся з «Ратона» і выправіўся да дзядулі з бабуляй у Петрыкаўскі раён. Кажа, што на тое былі свае прычыны – рана застаўся без маці. Рос пры бацьку, які быў выкладчыкам музыкі.

Ва ўлётцы Юрый піша, што на Петрыкаўшчыне працаваў у калгасе «Міхедавічы» электрыкам, але ў яго працоўнай кніжцы ў запісе пад №5 пазначана: «прыняты на працу ў якасці вучня электрыка II разраду».

Год Юрый Ганцэвіч працаваў у калгасе, а пасля два гады служыў у войску. У лютым 1997 года ён уладкаваўся ў Гомелі касірам-кантралёрам на ўчастак эксплуатацыі платных парковак спецаўтапрадпрыемства па ўтрыманні дарог. 24 чэрвеня таго ж 1997 года атрымаў атэстат аб агульнай сярэдняй адукацыі, скончыўшы Петрыкаўскую вячэрнюю школу з завочнай формай навучання.

З 1999 года Юрый – прадпрымальнік. Займаўся металаломам. Праз сем гадоў прадпрымальніцтва Ганцэвіч пераключыўся на аграэкатурызм – збудаваў сядзібу «На вадзе» для адпачынку і карпаратываў. На прычаленым да берагу Сожа металічным пантоне сабраў ладны дамок з тэрасай. Рэкламуе, што тут ёсць усе выгоды. Можна нават замовіць прагулкі па рацэ на яхце з рамантычнай назвай «Іяланта».

### Прыплод і даход

Адначасова Ганцэвіч заняўся развядзеннем свойскай птушкі і жывёлы – кароў, коз, авечак. Але гэта ўжо не каля ракі, а непасрэдна на сваёй сядзібе ў вёсцы Пакалюбічы.

Я папрасіў Юрыя ахарактарызаваць ягоную «фермерскую гаспадарку», паколькі ён называе сябе не толькі «суб'ектам аграэкатурызму», але і «фермерам».

– Ну што сказаць? Сёлета каровы пацяліліся, ёсць прыплод, цялятki. Дойных кароў чатыры. Колькі даюць яны малака, не скажу. Але яго хапае для сябе. Лішкі прадаю, каб купіць паліва і запчасткі для тэхнікі. Жывёла – гэта яшчэ і гной. І на ім можна зарабіць, – кажа Ганцэвіч.

Пішу фермеру: вось станеце кандыдатам у прэзідэнты – што адлюструеце ў дэкларацыі аб даходах?

– Даход за мінулы год у мяне невялікі. Продаж лішкаў малака і гною пацвердзіць дакументальна не магу. Агратурызм? У людзей грошай на агратурызм няма, адпаведна і я даходу з сядзібы «На вадзе» не маю. У дакрызісны час было лепей. Калі балатаваўся летась кандыдатам ў дэпутаты, то запісаў, што мой афіцыйна пацверджаны даход за 2018 год склаў 2616 рублёў, – з жалем падсумоўвае фермер.

### «Спецыяліст ва ўсіх галінах»

Цікаўлюся ў Ганцэвіча праз перапіску, спецыялістам у якой галіне ён сябе лічыць.

– Я як бы спецыяліст ва ўсіх галінах. Мне ўсё цікава. Я як бы Кулібін, самавучка. Я ўсюды набіраюся досведу. Калі першы раз не атрымліваецца, атрымаецца другі. Універсітэтаў я не канчаў, яны мне без патрэбы.

Прызнацца, адказы 44-гадовага прэтэндэнта часам не проста здзіўляюць – шакіруюць.

– У сваім жыцці я шмат чаго паспрабаваў: і бізнес, звязаны з металам, і агратурызм. Зараз сельскай гаспадаркай займаюся. Хачу паспрабаваць быць прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь ці хоць кандыдатам. Штосьці такога тыпу. Напішыце там, сфармулюйце. Хочацца зрабіць у лепшы бок усё як бы для народа. Таму што на сённяшні дзень у нас толькі закручваюць гайкі ва ўсіх галінах, па ўсіх напрамках.

Удзельнічаць у прэзідэнцкай кампаніі Ганцэвічу раіў блогер Ціханоўскі, які зараз знаходзіцца пад вартай. З іншага боку, сцвярджае Юрый, «народ прасіў». Хто гэты народ, фермер не ўдакладняе. Агучыў толькі, што ў яго ініцыятыўнай групе 170 чалавек. Кіраўнік групы – Таццяна Салашчук.

### «Ісці і паказваць сябе»

Палітыкам Ганцэвіч сябе не лічыць. Сцвярджае, што яго паход у прэзідэнты – «гэта проста крык душы».

– Калі цябе не слухаюць чыноўнікі, не чуюць ва ўладных структурах, застаецца куды-небудзь ісці і паказваць сябе: «Вось я такі, раблю штосьці для краіны, спрабую штосьці развіваць. Зрабіце і вы хоць што-небудзь для народа ў лепшы бок!».

«Лепшым бокам» у сельскай гаспадарцы Ганцэвічу бачыцца ўвядзенне «прыватнай уласнасці на зямлю». Цяпер жа, маўляў, фермеру нават у арэнду той зямлі не заўсёды можна дапрасіцца.

Пытаюся ў патэнцыяльнага кандыдата на пост прэзідэнта, як ён ацэньвае 26-гадовае кіраванне Аляксандра Лукашэнкі, раз збіраецца быць яму канкурэнтам на чарговых выбарах.

– Напачатку я падтрымліваў прэзідэнта. Чуў яго словы пра развіццё і падтрымку сельскай гаспадаркі, малога бізнесу, агратурызму. Павёўся, паверыў прэзідэнту, што гэта патрэбна краіне. А чыноўнікі вунь зямлі не даюць, перашкод шмат... Але супраць Лукашэнкі я нічога кепскага не казаў, – запэўнівае фермер Ганцэвіч.

Урэшце спрабую высветліць у гомельскага ўдзельніка прэзідэнцкай кампаніі, ці падзяляе ён думку аналітыкаў наконт рэформы дзяржаўнага ўладкавання Беларусі.

– Не разумею пытання, трэба ўдакладніць, – адклікаецца Ганцэвіч.

Фермер шчыруе ў Пакалюбічах без наёмных работнікаў. Усюды сам. Мае дваіх дарослых дзяцей. З жонкай у разводзе. Калі нечакана Ганцэвіч выйграе выбары, краіна і надалей застанецца без першай лэдзі.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ,**
**Гомельскі раён.**

**На здымку: Юрый Ганцэвіч у сябе на ферме. З асабістага архіва фермера.**

СЛЫШАЛИ?

# Лекарства могут теперь привезти прямо домой!

*Минздрав опубликовал адреса сайтов в интернете для заказа лекарственных средств.*

Доставлять лекарства имеют право 29 организаций. Это «СпецАфармация» (www.alfaapteka.by), «Беролина» (www.berolina.by, www.berolina.su), «Компания «Интерфарм» (www.alfaapteka.by), «Медфарм» (www.mogilev.apteka-adel.by), «Фармаркет» (www.vitebsk.apteka-adel.by), «Аленфарм-плюс» (www.alfaapteka.by). В перечне также «Амадей» (www.gomel.apteka-adel.by), «Аптека №53» (www.аптекарь.бел), «Аптека-63» (www.аптекарь.бел), «Меджел» (www.alfaapteka.by), «СалюсЛайн» (www.alfaapteka.by), «Аптекарь» (www.аптекарь.бел), «Беллерофон» (www.alfaapteka.by), «Виватон плюс» (www.grodno-brest.apteka-adel.by), «ГаленаФарм» (www.alfaapteka.by), «Доктор Таир» (www.kakvapteke.by).

Кроме того, речь идет о таких организациях, как «Здоровое решение» (www.fito.by), «Интерофицина плюс» (www.remedika.by), «Искамед» (www.iskamed.by), «Комповид» (www.shop.l-a.by, www.l-a.by), «ЛКЛ» (www.remedika.by), «Не Ска» (www.shop.l-a.by, www.l-a.by), «Партнер Медитек» (www.shop.l-a.by, www.l-a.by), «Ростора» (www.аптекарь.бел), «Табина» (www.alfaapteka.by), «Фармаркет-плюс» (www.minsk.apteka-adel.by), «Фитобел» (www.shop.l-a.by, www.l-a.by), «Новамедика» (www.novmed.by), «Медвакс» (www.aptekatut.by).

В пресс-службе Минздрава обратили внимание на необходимость проверять адреса сайтов организаций, предлагающих приобрести лекарственные средства.

Продажа в интернете лекарств, реализуемых без рецепта врача, разрешена временно, до 1 июля 2020 года. Соответствующий перечень препаратов утвержден постановлением Министерства здравоохранения №27 от 10 апреля 2019 года.

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

# Знікла другая частка сказа…

У рэдакцыйнай практыцы чаго толькі не бывае! Вось у мінулым нумары надрукаваны артыкул дэпутата Вярхоўнага Савета 12-га склікання Сяргея Навумчыка «1995 год: невыпадковы рэферэндум». І трэба ж – падчас рэдагавання ў першым абзацы знікла другая частка сказа. Даём яго ў поўнай рэдакцыі: «На агульнанароднае галасаванне былі вынесены пытанні аб інтэграцыі з Расіяй, аб праве прэзідэнта распускаць Вярхоўны Савет у выпадку парушэння ім Канстытуцыі, а таксама аб змене сімволікі і ліквідацыі статусу беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай».

Прыносім прабачэнне чытачам і аўтару артыкула.

**Рэдакцыя.**

УЛЫБКА ХУДОЖНИКА



ТРЕВОЖНАЯ ТЕМА

# Синяки на теле, ломота в спине

*О «ковид» и его последствиях для организма рассказывает известный белорусский дирижер Ольга Янум.*



Когда я позвонила Ольге Евгеньевне Янум, то не узнала ее голос. Руководитель прославленного коллектива, хоровой капеллы имени Ширмы, человек, дикция, тембр, звучность голоса которого, можно сказать, были образцовыми, теперь говорит еле-еле. Известный дирижер перенесла COVID-19, не догадываясь об этом. Окончательно свалили женщину в постель уже тяжелые осложнения. Словом, история болезни Ольги Янум довольно нестандартная, болезнь, которая напала на человечество, развивается в каждом организме по-разному, а знаний о вирусе пока очень мало, чтобы поставить правильный диагноз по первым же симптомам.

**– Что с вашими голосовыми связками, Ольга Евгеньевна?**

– Наверное, это результат лекарств, которые я принимаю сейчас во множестве. Могу постараться говорить громко и ясно, но пока просто берегу голос.

**– Как начиналась ваша болезнь?**

– Долгая история. Больничный мне открыли еще 6 апреля, поставили диагноз «ОРВИ». У меня были слабость, температура, хотя и невысокая, но держалась очень долго. Прописали антибиотики. После двух недель домашнего режима я, как требуют правила, пошла в поликлинику закрывать больничный. При этом чувствовала себя отвратительно, по дороге чуть не падала с ног. Больничный закрыли, но на работу я, к счастью, не вышла, так как всех артистов Белгосфилармонии отправили в социальный отпуск до конца мая. Мне сначала даже казалось, что я, в принципе, здорова. Хотя жутко ломило спину… Но рентген, который за время больничного мне делали дважды, почему-то не показывал воспаления легких. Да, к сожалению, есть вопросы к ранней диагностике… А через несколько дней после закрытия больничного листа у меня по всему телу пошли синяки, я заметила, что даже мои малюсенькие царапины почему-то не заживают очень долго. И я снова пошла – побежала! – на прием к участковому врачу: «Что со мной творится?!»

В тот же день, очень оперативно, меня положили в 9-ю больницу, в отделение, которое занимается проблемами крови. Там мне сделали компьютерную томографию, и вот она показала, что у меня двусторонняя пневмония – и это практически спустя месяц! Оказалось, что «ковид» у меня был, но уже прошел, зато оставил «в наследство» осложнение на систему кроветворения. Такая вот атипическая реакция на вирус: теперь у меня проблема с тромбоцитами. Сейчас идет очень длительный восстановительный процесс.

*Ольга Евгеньевна очень благодарна врачам и медсестрам, говорит, что уход за ней был великолепный, работа медперсонала выше всяких похвал: самоотверженные, внимательные. Она рада, что смогла уберечь от вируса свою семью: детей не видела полтора месяца, они жили с папой в отдельной квартире.*

– Проблема в том, что у меня не было положительного теста на «корону», – *рассказывает дальше Ольга Янум.* – Да и врачи не знают толком, как с ней бороться. Всё экспериментальным методом: кому-то помогает, а кто-то, к сожалению, не выдерживает. Сейчас принимаю лекарства для восстановления крови. Я получила сильнейший удар по иммунитету, так что выздоровление – дело не одной недели.

**– А что происходит в коллективе хора? Как известно, в капелле многие заболели, примерно треть артистов.**

– Почти все заболевшие уже выздоровели. Некоторые переболели сильно, но, слава Богу, все живы. Я очень переживаю за наших артистов. «Ковид» – очень серьезное заболевание, очень. Непредсказуемое. Вот у меня не было кашля, не было удушья, кислородной недостаточности. Ничего. Только слабость, бессилие, и температура держалась неделю. Да, отсутствовал аппетит, не чувствовала запахов. Но кашля-то не было! А «ковид», видите, какой коварный – в это время разрушал кровеносную систему организма. Надо быть внимательным к симптомам: если ты не задыхаешься, то это еще не факт, что ты не болен. Долго держащаяся температура – вот главный показатель, у меня она не сбивалась больше недели. Это главный симптом, чтобы идти и делать КТ. Но, к сожалению, у нас на КТ сейчас попасть проблематично – даже в частных медучреждениях. Врачи дают направление, но везде такой наплыв пациентов… Мне КТ сделали, только когда я попала в больницу, после третьего рентгена, уже в «девятке», и только тогда он наконец показал изменения в легочной ткани.

**– Какое настроение у ваших коллег? Знаю, что в коллективе был момент неконтролируемой агрессии в ваш адрес за то, что вы как руководитель не смогли уберечь подчиненных от инфекции.**

– Знаете, на самом деле я могу это понять: люди столкнулись со страшной ситуацией, никто к ней не был подготовлен морально. Я пыталась предотвратить распространение вируса как могла, много раз просила директора филармонии дать для репетиций хора другое – большое – помещение. Старалась не собирать хор вместе, а проводить репетиции по группам. Но не успела довести этот организационный процесс до конца, сама свалилась от болезни. Я абсолютно не обижаюсь на коллег, многие люди сейчас в отчаянии, поэтому ищут, кого бы сделать крайним. Мои усилия в попытках максимально оградить людей от вируса, поверьте, были колоссальными. Но хор – не моя частная лавочка. Если бы я имела полномочия отменить работу… Но я не имела на это права.

**– Как думаете, где вы заразились?**

– Это могло произойти где угодно. Хотя я ходила постоянно в маске и принимала все меры предосторожности. Но «ковид» очень контагиозен – у него высокая степень проницаемости. Мне очень жалко людей, пострадала большая часть капеллы. Это серьезный урок, печальная история, я очень переживаю за всех.

**– Что говорят врачи: сколько времени нужно теперь организму на восстановление?**

– Очень долго… Но я стараюсь быть на позитиве, никаких отрицательных эмоций – это очень важно. В первую очередь очень хочу, чтобы все артисты выздоровели, чтобы с ними все было хорошо. Конечно, переоценка ценностей в будущем неизбежна, всё, наверное, будет теперь по-другому, но надеюсь, что общие пережитые невзгоды дадут всплеск творчества. Обиды и претензии пройдут, и мы сможем сделать что-то прекрасное для искусства нашей страны.

**Елена МОЛОЧКО.**

АКЦИЯ

# МАЗ повесил на самосвал мегамаску

*И призвал белорусов думать о здоровье*

Необычную картину можно было на днях видеть рядом с проходной Минского автозавода. На площадке у центрального входа предприятия стоял самосвал МАЗ с гигантской медицинской маской на кабине. Сшили ее в холдинге «БЕЛАВТОМАЗ» и повесили на грузовик специально, чтобы призвать белорусов заботиться о своем здоровье во время пандемии коронавируса.

Маска получилась огромной – размером 2,5 на 1,5 метра. По форме и структуре она полностью повторяет медицинскую маску, только выполнена в гигантских пропорциях. На маску нанесена надпись «Спасибо!».

Мегамаску «носит» столь же внушительный самосвал-титан 65262L, который с легкостью перевозит до 36,7 тонны сыпучих грузов. К машине защитная ткань крепится с помощью двух прочных резинок. В маске есть даже защипы для правильной циркуляции воздуха.

Маску для МАЗа сшили с благой целью – напомнить белорусам о необходимости соблюдать меры осторожности и поблагодарить медиков за их самоотверженный труд в условиях пандемии.

*«Тем самым мы хотим обратить внимание людей на то, как важно сейчас носить маски и соблюдать социальную дистанцию в общественных местах. Пока не пройдет пандемия, нужно быть осторожными и заботиться о себе. А для нас как предприятия нет ничего важнее здоровья наших сотрудников и клиентов»*, – поясняют на Минском автозаводе.

МАЗ также участвует в изготовлении средств индивидуальной защиты. В швейном цеху завода за последнее время сшили 1200 медицинских масок с высокой степенью защиты, 1500 специальных костюмов, 500 халатов и 1000 шапок.




КНІЖНАЯ ПАЛІЦА



# «На парозе дабрыні і болю»

Мікола Чарняўскі ў адрозненне ад пераважнай большасці сваіх равеснікаў-пісьменнікаў, якія набывалі веды на філфаку Белдзяржуніверсітэта стацыянарна, вучыўся на вячэрнім аддзяленні. Таму і працаваць пайшоў раней за іх. І амаль усё жыццё, не лічачы замежнай рэдакцыі радыё, – у дзіцячых выданнях: рэдакцыях газеты «Піянер Беларусі», часопісаў «Бярозка» і «Вясёлка». Не было беларускага дзіцячага пісьменніка той пары, з якім яму не выпала б шчасце сустрэцца, бо яшчэ да таго, як выдаць творы асобнай кнігай, гэтыя дзіцячыя выданні знаёмілі з імі юных чытачоў.

Успаміны таго часу якраз і леглі ў аснову кнігі літаратурных партрэтаў Міколы Чарняўскага **«На парозе дабрыні і болю»**, якая нядаўна пабачыла свет у выдавецтве «Народная асвета». Перад чытачамі паўстаюць светлыя постаці беларускіх пісьменнікаў Янкі Маўра, Уладзіміра Дубоўкі, Станіслава Шушкевіча, Васіля Віткі, Рыгора Барадуліна, Артура Вольскага, Анатоля Грачанікава, Хведара Чэрні, Яўгеніі Янішчыц, Анатоля Сербантовіча, Міколы Маляўкі…

Узгадваем пра кнігу Міколы Чарняўскага яшчэ і з той нагоды, што ў ёй нямала старонак прысвечана вядомаму гомельскаму пісьменніку, шматгадоваму актыўнаму аўтару «Народнай Волі» Міхасю Даніленку.

Менавіта ягоны літаратурны партрэт з кнігі Міхася Чарняўскага «На парозе дабрыні і болю» ў некалькі скарочаным і абноўленым выглядзе мы і прапануем увазе нашых чытачоў.

Мікола ЧАРНЯЎСКІ

# «Пагрукала восень кіем у акно…»

…Крышку перайначыўшы крылатыя куляшоўскія радкі, можна паўтараць іх як малітву ва ўсе часіны нашага жыцця: «Кожны мае свой кут, родны кут на зямлі, кут, дзе мары, як гордыя сосны, раслі...»

Для Міхася Даніленкі такім кутком, такою старонкай з'яўляецца Лоеўшчына. Тут, у вёсцы Ястрабка, ён 28 кастрычніка 1922 года нарадзіўся, зрабіў першыя крокі. Калі споўнілася тры гады, давялося памяняць месца жыхарства – разам з бацькамі пераехаў у пасёлак Бодры. «У Бодрым, – згадваў пісьменнік, – прайшло маё дзяцінства. Адсюль я са зрэбнай торбачкай хадзіў у пачатковую ястрабскую школу. А пасля вучыўся ў Баршчоўскай сямігодцы...» Адсюль жа будучы пісьменнік, скончыўшы сямігодку, пехатою насіў здаваць дакументы ў Рэчыцкае педвучылішча, дзе ўжо вучыўся яго старэйшы брат. «На ўсё жыццё запомніліся ўрокі літаратуры, якія вяла Надзея Прохарава, – з цеплынёй успамінаў Міхась Пятровіч. – Менавіта яна прывіла нам, навучэнцам, спрадвечную любоў і пашану да роднага слова. Толькі мы здалі апошні дзяржаўны экзамен, як пачалася Вялікая Айчынная вайна...»

Мабілізаваны ў першыя ж дні вайны ў войска, ён спачатку прайшоў вучобу ў запасным палку ў паўночным Казахстане, стаў знішчальнікам танкаў, а потым трапіў на Паўднёва-Заходні фронт. Вясною 1942 года ў баях пад Харкавам быў кантужаны і апынуўся ў нямецкім палоне. Змардаваны, знясілены ад голаду, з сотнямі такіх жа нявольнікаў прабіваў штольні ў аўстрыйскіх скалах для гідраэлектрастанцыі, будаваў канатную дарогу, цягаў вялізныя скрыні, гружаныя камянямі ды цэментам. На пачатку вясны 1944 года Міхасю Даніленку і яшчэ двум ваеннапалонным удалося зрабіць пралаз у калючай агароджы і ўцячы ў горы. Пасля неспадзяванай сутычкі ў гарах з паліцэйскім іх засталося ўжо двое: ён і даваенны выпускнік Растоўскага медінстытута Сцяпан Халайчаў.

Пра здзекі і пакуты лагернага жыцця, а таксама пра ўцёкі з палону Міхась Даніленка пазней расказаў у апавяданні «Штраус у апраметнай» і аповесці «Альпы», а мне незадоўга да смерці – у сваім лісце. Узнаўляючы падзеі той далёкай альпійскай пары, Міхась Пятровіч неяк прызнаўся: «Успамінаць, як уцякаў з палону, не люблю. Здаецца, толькі адзін раз неяк, седзячы за святочным сталом, прызнаўся сыну Сашу, як гэта нялёгка». Ды ўсё ж, думаю, большасці з тых, хто не чытаў аповесці, цікава будзе даведацца, як гэта было. Тым болей што яго ўспамін – гэта ж не мастацкі твор.

«Знясіленыя, мы блукалі па Альпах не адзін тыдзень. Баяліся распальваць агні: з даліны дым віднеўся за некалькі кіламетраў, – прыгадваў Міхась Пятровіч. – Часам адлежваліся ў хлеўчуках высока над далінай. У іх запаслівыя аўстрыйскія баўэры нарыхтоўвалі сваім рагулям сена... Нас затрымалі на адной са станцый у даліне. Нікога нават не здзівіла, што двое дахадзяг драмалі каля будынка чыгуначнай станцыі... Мне хочацца ў думках у соты раз падзякаваць пажылым дзядзькам-салдатам (аўстрыйцам) з даўжэзнымі вінтоўкамі. Відаць, яшчэ з часоў імперыялістычнай вайны. Дзень і ноч яны гналі нас у бок да граніцы са Швейцарыяй. Ніколі не думаў, што можна ісці і адначасова спаць. Тыцнешся лбом у спіну таго, хто сунецца перад табой, агаломшышся на нейкі міг, а потым зноў упадаеш у забыццё...

Толькі калі ступілі на нейтральную швейцарскую зямлю (многія, помню, падалі і цалавалі яе), нам канваіры абрадавана паведамілі: «Удалося адарвацца ад нацыстаў, якія павінны былі абавязкова ўсіх вас знішчыць...» У Швейцарыі мы нейкі час лічыліся інтэрніраванымі. І паціху рыхтаваліся да пераезду ў занятую савецкімі войскамі Германію. Дарэчы, у горадзе Плаўэн у ваеннай часці, дзе спачатку я служыў, я падахвоціўся быць... мастаком. Афармляў «чырвоны куток». Маляваў фарбамі ордэны Леніна, Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі. Па клетках маляваў партрэты маршалаў Варашылава, Будзённага, Жукава... Калі скончылася вайна, я з Рэчыцы праз Ястрабку вяртаўся з салдацкім рэчавым мяшком за спінай у свой Бодры. Пасля працаваў настаўнікам роднай мовы і літаратуры ў Казярожскай сямігадовай школе».

У 1952 годзе Міхась Даніленка завочна скончыў Гомельскі педагагічны інстытут, мабыць, спадзеючыся працягваць настаўніцкую працу. Будучы школьным выкладчыкам, ён часта выступаў з вершамі, апавяданнямі і нарысамі на старонках сталічных літаратурных выданняў, у абласной газеце «Гомельская праўда». І калі там вызвалілася пасада, яму са згоды рэдактара газеты Івана Матыля прапанавалі перайсці на працу ў рэдакцыю. Ён згадзіўся: усё ж журналісцкая праца бліжэй да працы пісьменніцкай. Тым болей што на гэты час малады празаік Міхась Даніленка ўжо з'яўляўся паўнапраўным членам Саюза пісьменнікаў Беларусі.

За трыццаць гадоў, што былі аддадзены рэдакцыйнай працы, Міхась Пятровіч, сціплы па сваёй натуры, ніколі не імкнуўся рознымі праўдамі і няпраўдамі «выбіцца ў начальства», узвысіцца, шчыраваў на пасадзе старшага літаратурнага работніка ў аддзеле культуры, дзе я яго і ўбачыў упершыню. Спытаўся аднойчы па сваёй маладой наіўнасці, чаму загадчыкам аддзела з'яўляецца не ён, пісьменнік, а жанчына-журналістка, ціхмяная, прыветлівая Зоя Іванаўна, якая сядзела з ім у адным пакоі. «А навошта гэта мне? – амаль здзівіўся, шчыра пасміхнуўшыся, Міхась Пятровіч. – Я ж беспартыйны. Праўда, калі б дужа захацеў, то прынялі б у партыю. Затое працую спакойна, вольны сам сабе, не трэба кожны дзень мазоліць вочы рэдактару на розных там пяціхвілінутках да паўдня. Што ад мяне патрабуецца – зраблю, здам у сакратарыят – і вольны, магу заняцца сваім. Задум, дзякуй богу, хапае».

Задум і сапраўды хапала. Назіральны, удумлівы празаік Міхась Даніленка асабліва не адчуваў недахопу жыццёвага матэрыялу для сваіх твораў. Шматлікія ўражанні ад сустрэч з вяскоўцамі, рабочымі, воднікамі, леснікамі, настаўнікамі, аграномамі, заатэхнікамі, студэнтамі, а потым і нафтаздабытчыкамі Палесся кладіся ў аснову не толькі надзённых газетных матэрыялаў, але, прайшоўшы праз прызму аўтарскага пераасэнсавання, мастацкага заглыблення ў чалавечыя пачуцці і характары, выверанья сэрцам, пад пяром пісьменніка пераўвасобіліся ў адметныя літаратурныя творы – аповесці, апавяданні, нарысы, абразкі, нявыдуманыя былі. Сабраныя ў кнігах «Майская навальніца», «Наваселле», «Наш дом», «Запаветны акіян», «Маці Мар'я», «Журлівіца», «Родная зямля», «Дзве зоркі», яны кранаюць сваёй праўдзівасцю, тонкім веданнем жыцця і чалавечай псіхалогіі, тых з'яў і рэчаў, пра якія піша, замілаванасцю да роднай зямлі, да людзей – працавітых, сумленных, шчырых, чулых, добрых сэрцам і душой…

Як былы настаўнік, не забыў Міхась Даніленка маленькіх чытачоў, школьнікаў. Яго апавяданні і казкі, адрасаваныя дзецям, выходзілі асобнымі кніжкамі («Вернасць слову», «Зачараваны гарлачык», «На вуліцы Сонечнай», «Ключы бабулі Зімы») і ўвайшлі ў многія школьныя чытанкі і падручнікі. За творы, што рэгулярна змяшчаліся ў часопісе «Вясёлка», пісьменнік быў уганараваны рэдакцыйнай прэміяй імя Васіля Віткі. Гэта ўзнагарода, па прызнанні Міхася Пятровіча, такая ж дарагая, як і тыя, што атрымаў раней за мужнасць і добрасумленную працу, – ордэн Айчыннай вайны II ступені, Ганаровыя граматы Вярхоўнага Савета рэспублікі, нагрудны знак «Выдатнік друку Беларусі».

Пасля выхаду на пенсію Міхась Пятровіч змяніў звыклы гарадскі лад жыцця на вясковы: перабраўся жыць на родную Лоеўшчыну, дзе ў вёсцы Багатая Града (апошнім часам у пісьмах да мяне ён надпісваў чамусьці, магчыма, бліжэй да гістарычнай назвы – Бедная Града), займеў невялікую гаспадарку, якая асабліва ў летнюю пару давала клопатны сялянскі занятак рукам ды нагам, лячыла ад гарадскога тлуму і мітусні. Знаходзіўся час таксама, каб нешта напісаць. І для дарослых, і для дзяцей.

Аднак з гадамі глушэла вёска, пусцелі хаты, быллём ды пустазеллем зарасталі агароды. Няўтульна станавілася ў Багатай Градзе. А тут яшчэ адна бяда – не стала вернай спадарожніцы жыцця, маці яго дзяцей Галіны Мікалаеўны. Якая там гаспадарка, калі сілы ўжо не тыя, няма ранейшай падмогі, звыклага сямейнага цяпла. Давялося прасіць дзяцей, каб часцей забіралі ў горад. І не толькі на зіму...

Цяпер, калі выпадалі цёплыя ды пагодлівыя дні, Міхась Пятровіч любіў пасядзець на лаўцы каля Любенскага возера, што знаходзіцца ў тым мікрараёне Гомеля, дзе ён жыў. Пасядзець і паназіраць, «як вастракрылыя чайкі, што зрэдку пралятаюць паўз другі бераг, зніжаюцца да самай вады, а потым зноў узмываюць у неба. За апошнія гады іх значна паменшала...»

Але не ўсе дні бывалі ясныя, сонечныя з раніцы да вечара. Нечакана набягалі хмары, чуліся далёкія грымоты, узварухнуўшы ў душы і сэрцы незагойныя, як раны, успаміны. І тады кладіся на чысты аркуш паперы словы: «На небе часта пагрымлівае. А я зрэдчас успамінаю 22 чэрвеня 1941-га. Не прывядзі, Божа...»

Але, як ні хацелася б таго, шлях зямнога жыцця кожнага з нас не можа працягвацца бясконца, не можа быць вечным. Асабліва ў такіх людзей, каму, прайшоўшы праз пекла фашысцкай нявол, удалося цудам выжыць, быццам нанава нарадзіцца на свет: **24 лютага 2019 года Міхася Пятровіча Даніленкі не стала**. Яму ішоў дзевяноста сёмы год.

Адно суцяшае ў гэтай непазбежнасці зямнога існавання: лёс усё ж быў па-свойму спагадлівы да пісьменніка-ветэрана, даволі шчодра кампенсаваўшы яму бязлітасна адабраную вайною маладосць і ўсе пакуты, што выпалі на яго долю, не адным дзясяткам гадоў пазнейшага жыцця. Магчыма, таксама не заўсёды дужа лёгкага і бязвоблачнага, але ж – мірнага, нават у нечым шчаслівага, не пазбаўленага часін зямной радасці і не ў меншай меры – творчай.



100 РАДКОЎ

Міхася СКОБЛЫ

# Непахаваны Бядуля

У свой час мне даводзілася часта бываць у нашага літаратурнага старэйшыны Максіма Лужаніна. Аўтар выдатнай кнігі «Колас расказвае пра сябе» цікава апавядаў і пра сваё жыццё – няспешна, з непаўторнай лужанінскай інтанацыяй, часам падмацоўваючы свае гісторыі «рэчавымі доказамі».

Помню лёгкі ядлоўцавы кій – падарунак ад Якуба Коласа, які сціпла стаяў у калідоры. Помню срэбную чарачку – вясельны падарунак ад Янкі Купалы, з якой дазвалялася прыгубіць хмельнага пітва і гасцям. Але найбольш уразілі мяне не названыя памяткі-рэліквіі, а… урна з прахам пісьменнікавай жонкі, таленавітай паэткі Яўгеніі Пфляўмбаўм. Стаяла тая урна на ніжняй паліцы кніжнай шафы, адкуль я па просьбе гаспадара дастаўваў нейкія старыя выданні.

«Жэня чакае мяне», – спакойна патлумачыў дзевяностагадовы Лужанін, заўважыўшы маю збянтэжанасць. Але да мяне тады так і не дайшло, навошта спатрэбілася ператвараць звычайную гарадскую кватэру ў калумбарый. Магчыма, я не ведаў нейкіх сямейных абставін. Пражыўшы разам амаль семдзесят гадоў, муж і жонка ўрэшце апынуліся пад адным надмагіллем на зацішных могілках у вёсцы Паперня з паўночнага боку Мінска. Ён перажыў яе на пяць гадоў…

Пра тую даўнюю вусцішную гісторыю з пахавальнай урнай у кніжнай шафе нагадала мне гісторыя сучасная. Напомню тым, хто не ў тэме. Амаль тры месяцы таму ў горадзе Уральску на поўначы Казахстана быў эксгумаваны прах Змітрака Бядулі і ў цынкавай скрыні дастаўлены ў Беларусь. Эпапея з перапахаваннем асвятлялася ў СМІ, пасля яе завяршэння арганізатары – кіраўнік Фонду Магдалены Радзівіл Аляксандр Сапега і дырэктар Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Міхаіл Рыбакоў – нават зладзілі адмысловую прэс-канферэнцыю. На якой нечакана высветлілася, што месца апошняга спачыну для Бядулі на радзіме пакуль не вызначана. Было таксама паведамлена, што яго магіла ва Уральску знаходзілася ў вартым жалю стане.

Што да занядбанай магілы, то тут здзіўляцца не прыходзіцца. Гэта ў Беларусі Бядуля – класік, чые творы вывучаюцца ў школе, а для казахаў ён адзін з эвакуіраваных у 1941-м, каго напаткала раптоўная смерць проста на пероне мясцовага вакзала. Так ужо атрымалася: пісьменнік адлучыўся па кіпень і не паспеў ускочыць на прыступку вагона адыходзячага цягніка. Кінуўся бегчы наўздагон, і – не вытрымала сэрца, памёр проста на рэйках. Пазней сведка той трагедыі Артур Вольскі ўспамінаў: «Ва Уральску ішоў першы снег, а Бядуля ляжаў пад адкрытым небам на пагорку з каменнага вугалю ў сінім гарнітуры, з ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга...»

Мушу зазначыць, што ў мяне не выклікае сумненняў само перапахаванне – справа неабходная і пачэсная. Але нездарма кажуць у народзе: не ганьбуй старыя боты, пакуль новых не пашыў. Як выглядае, з «новымі ботамі» ў Мінску ўзніклі пэўныя праблемы. Аляксандр Сапега на прэс-канферэнцыі патлумачыў, што, «як толькі план перапахавання будзе падрабязна распрацаваны і ўзгоднены з рознымі міністэрствамі, дэталі стануць вядомыя грамадскасці. А надмагільны помнік з'явіцца ў выніку творчага конкурсу сярод скульптараў».

Атрымліваецца, Бядулю выкапалі і везлі ў Мінск, не маючы плана перапахавання? Не парупіўшыся папярэдне пра адпаведны помнік?

Удакладню: усё адбылося тры месяцы таму, яшчэ да каранавіруса.

І дзе цяпер, у якой «кніжнай шафе» знаходзіцца прах Бядулі?

І колькі яшчэ часу патрабуецца міністэрствам на ўсе ўзгадненні?

Урэшце, дзе сапраўды пахаваць Бядулю?

На інтэрнэт-форумах па звыклай завядзёнцы ўсчаліся дыскусіі. Хтосьці называе ганаровыя Усходнія могілкі, але ці месца пісьменніку-нашаніўцу паміж хакеістам Русланам Салеем і кампазітарам Ігарам Лучанком? Камусьці лепшым варыянтам здаюцца Вайсковыя могілкі, але там нікога не хаваюць ужо гадоў пяцьдзясят. А хтосьці прапануе адвезці Бядулю ў яго родны Пасадзец на Лагойшчыне: маўляў, дзе нарадзіўся, там і прыгадзіўся.

Застаецца пытанне і з помнікам. Сын пісьменніка выказаўся, што найлепшы зрабіў бы Заір Азгур. Але слаўны савецкі скульптар даўно памёр.

Праблемы, як бачым, нагрувашчваюцца адна на адну. І вырашацца яны пачалі, на жаль, запознена (калі ўвогуле пачалі). Чамусьці падазрона доўга маўчыць Мінкульт, а гэта цалкам яго кампетэнцыя. Увогуле, як на добры лад, міністэрства мусіла б распрацаваць праект Нацыянальнага пантэона, дзе знаходзілі б апошні спачынак вялікія суайчыннікі. Ёсць жа ў палякаў Вавель, у чэхаў – Вышаградскія могілкі, у грузін – гара Мтацмінда.

На браме Вышаградскага пантэона мне кінуўся ў вочы запамінальны надпіс: «Ač zemreli, ještě mluví» («Хоць памерлі – яшчэ гутараць»).

Ужо больш за стагоддзе гутарыць з намі са старонак сваіх кніг Змітрок Бядуля, які пачынаў пісаць на старажытнаяўрэйскай мове і па-руску, але ўрэшце з поўным правам стаў класікам беларускай літаратуры. І наш абавязак – годна пахаваць яго ў роднай зямлі, раз ужо выкапалі з чужой. Тры месяцы беспрытулля ў цынкавай скрыні – гэта неяк не па-людску і не па-хрысціянску…

НЕЗВЫЧАЙНАЯ СІТУАЦЫЯ

# «Вучымся і гуляем, але не так, як раней...»

*Міністр адукацыі Беларусі Ігар Карпенка, на мінулым тыдні дакладваючы Аляксандру Лукашэнку аб стане спраў у школах, заявіў, што на сённяшні момант іх у сярэднім наведвае 41% навучэнцаў. А як вучацца і бавяць вольны час тыя, хто не наведвае школы і займаецца самастойна? «Народная Воля» пагутарыла з бацькамі такіх дзяцей.*

## Ужо больш за месяц дзеці дома

Сям'я Хільмановічаў шматдзетная – у ёй трое дзяцей. Галава сям'і, спадар Уладзімір, кажа, што яны з жонкай прынялі рашэнне не пускаць дзяцей у школу ад самага пачатку, як толькі эпідэмія пачалася ў Беларусі. Самі таксама працуюць дыстанцыйна, дома.

*«Для нас галоўнае – здароўе нашых дзяцей,* – падкрэслівае Уладзімір. – *Але на вучобу мы нават і не думалі забывацца».*

Старэйшая дачка, Валерыя, ужо ў дзясятым класе, сярэдні сын, Раман, – у сёмым, а самы малодшы, Герман, выхаванец дзіцячага садка, але цяпер ён таксама разам з усімі дома.

*«Шкада, канешне, што школа наша аказалася няздольнай наладзіць дыстанцыйнае навучанне, як гэта робіцца ў суседняй Польшчы,* – кажа Уладзімір. – *Тым не менш дзеці атрымліваюць заданні праз электронную пошту і такім самым чынам адпраўляюць выкананыя ўрокі настаўнікам».*

## «І дзеці, і настаўнікі павінны авалодваць новымі тэхналогіямі навучання»

Бацькам давялося падзяліць абавязкі. Спадарыня Іна, як чалавек з большай схільнасцю да дакладных навук, адказвае за матэматыку і некаторыя прыродазнаўчыя прадметы, а Уладзімір, як гуманітарый, займаецца з дзецьмі літаратурай, геаграфіяй, мовамі, гісторыяй. Дзеці пераважна самі робяць урокі, бацькі іх правяраюць, як і раней, і цяпер яшчэ праводзяць заняткі, каб быў засвоены ўвесь матэрыял па праграме.

Да ўсяго дзеці Хільмановічаў яшчэ дадаткова займаюцца па англійскай і польскай мовах па-за школай.

*«Вось тут адразу наладзілі дыстанцыйнае навучанне,* – заўважае Уладзімір. – *Аказваецца, гэта можна зрабіць, і дзецям так даволі зручна».*

Спадар Уладзімір лічыць, што і вучні, і настаўнікі павінны авалодваць новымі тэхналогіямі навучання, тым больш што тэхнічныя магчымасці дазваляюць гэта рабіць.

*«Высновы найперш павінна зрабіць наша Міністэрства адукацыі, якое зараз працуе і кіруе метадамі мінулага і пазамінулага стагоддзяў»,* – упэўнены наш суразмоўца.

## «Гуляць не забываем, але галоўнае, каб не знікаў інтэрнэт»

Зразумела, што ўвесь час знаходзіцца дома дзецям даволі складана ды і шкодна, асабліва цяпер, калі надышла вясна і пацяплела. Спадар Уладзімір кажа, што паколькі ў іх сям'я вялікая, то яны дзеляцца на групы і выходзяць на вуліцу па чарзе. Як правіла, робяць гэта, калі ў двары няма людзей, каб абмежаваць кантакты.

*«Праўда, мушу сказаць, што дзяцей больш турбуе не тое, што скараціліся кантакты,* – заўважае шматдзетны бацька. – *Для іх больш значна, каб не знікаў інтэрнэт у хаце».*

Большую частку вольнага часу дзеці праводзяць ля камп'ютараў, гуляюць са сваімі сябрамі ў гульні. Бацькі імкнуцца прывучыць іх чытаць кніжкі, а каб камп'ютар не забіраў увесь вольны час, праводзяць віктарыны, конкурсы, разам гуляюць у настолкі.

Спачатку Уладзімір і Іна непакоіліся, што сямейная самаізаляцыя будзе праходзіць больш складана, але дзеці хутка адаптаваліся.

*«Праўда, вось-вось надыдзе лета, думаю, што будзе значна цяжэй, бо мы вельмі любім падарожнічаць,* – уздыхае галава сям'і. – *Ужо цяпер выязджаем з сынам у наваколле, плануем роварныя экскурсіі за горад. Але зноў-такі – ці будзе гэтага дастаткова?»*



## А што дзеці?

Дачка, кажа спадар Хільмановіч, ужо хацела б хадзіць у школу, а сярэдні хлопчык асаблівага жадання не выказвае, бо яго ўсё задавальняе. У кватэры ёсць нават баскетбольнае кальцо, і бацька з сынам гуляюць, па чарзе закідваючы мячык.

*«Канешне, я бачу: Рому ўжо хочацца ў секцыю стральбы, у якой ён займаецца,* – кажа Уладзімір. – *Але ён разумее, што пандэмія – гэта вельмі сур'ёзна».*

Часам здараецца, усе крыху надакучваюць адзін аднаму, робяць заўвагі, але гэта праходзіць, і зноў кожны займаецца сваёй справай.

*«Наш малодшы трохі сумуе па садку, бо там у яго кампанія равеснікаў, і мы яму іх замяніць не можам,* – уздыхае бацька. – *Але мы ўсе спадзяёмся, што ўлетку ўсё зменіцца».*

## «Мы таксама іншага выйсця не знайшлі»

У сям'і Юлі і Аляксея Радсаў адзін сын – васьмікласнік Улад. Мама кажа, што рашэнне не пускаць сына ў школу прынялі падчас канікул: *«Мы папросту ўбачылі, што гэта пандэмія робіць у свеце і ў Беларусі, а таму вырашылі, што Улад будзе займацца дома, тым больш што і муж, і я працуем дыстанцыйна».*

На пачатку мінулага тыдня ў бацькоў аднакласніка хлопца выявілі каранавірус. Да 22 красавіка ўсе вучні 8 «А», якія наведвалі школу, разам з настаўнікамі накіраваны на самаізаляцыю як кантакты першага ўзроўню.

## «Навучальны працэс арганізавалі самі»

Ужо ў першыя дні пасля канікул бацькі зразумелі, што школа не можа прапанаваць больш-менш дасканалыя формы дыстанцыйнага навучання.

*«Недзе праз тыдзень пасля пачатку заняткаў у бацькоўскі чат даслалі спасылку на інтэрнэт-платформу, куды настаўнікі сталі выкладваць заданні і тэсты, таксама праз вайбер. Але фактычна паўнавартаснай вучэбнай нагрузкі няма, і склалася ўражанне, што настаўнікі спрабавалі гэта рабіць на сваім энтузіязме,* – дзеліцца назіраннямі наша суразмоўніца. – *Таму мы з мужам адразу зразумелі, што ў гэтай сітуацыі ўсё кладзецца на нашы плечы».*

Мама не зусім упэўнена, што ў далейшым не давядзецца наймаць рэпетытараў, каб навярстаць прапушчанае.

*«Адзінае, што супакойвае: у чацвёртай чвэрці няшмат новага матэрыялу, больш паўтараецца тое, што пройдзена за год,* – канстатуе спадарыня Юля. – *Ды і клас у нас не выпускны, а значыць, можна будзе нешта нагнаць, калі адстанем».*

Але бацькам вельмі цікава, як у далейшым будзе паводзіць сябе Міністэрства адукацыі.

## Цэлы дзень дома – таксама няпроста

Бацькі ўладкавалі трэнажор, каб сын акрамя школьных заняткаў займаўся і фізічна. Кожны вечар усёй сям'ёй робяць шпацыр па некалькі кіламетраў.

З сябрамі Улад размаўляе праз месенджары, падобна на тое, што яму хапае такіх стасункаў, тым больш ён і раней любіў адзін заставацца дома. Праўда, кажа спадарыня Юля, даволі складана вытрымліваць рэжым дня: *«Гэта сітуацыя расхалоджвае. Цяжка раніцай дзіця абудзіць, бо яно ведае, што ў школу ісці не трэба».*

Акрамя таго, прызнаецца мама, спраў у яе дадалося. Раней кожны з іх амаль увесь дзень праводзіў на працы і ў школе, не было неабходнасці гатаваць абед, думаць, што зрабіць на перакус, прыбіраць і г.д.

*«Часам усё ж трэба расставацца, каб засумаваць,* – смяецца гаспадыня кватэры. – *Мы, канешне, не канфліктуем, але заўвагі сыну раблю часцей, чым звычайна. У такіх сітуацыях даросламу чалавеку цяжка самаарганізавацца, а не тое што дзіцяці…»*

## Галоўнае, каб скончылася эпідэмія

І Хільмановічаў, і Радсаў найбольш хвалюе, ці скончыцца эпідэмія да наступнага навучальнага года. Паводле пераканання бацькоў, калі яна працягнецца, а навучальны працэс застанецца ў такім стане, як цяпер, то праблемы будуць мець многія дзеці, бацькі і настаўнікі. Ды і ўвогуле ўсё грамадства.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ЗАКУЛІССЕ

# Таццяна МАРХЕЛЬ: «Няхай гэта будзе весела!»

*Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі распачаў праект «РТБДом» і знаёміць гледачоў з самымі цікавымі пастаноўкамі са свайго відэафонду. Гэты тыдзень прысвечаны народнай артыстцы Беларусі **Таццяне Мархель**.*

Усе прыхільнікі яе яскравага таленту могуць паглядзець спектаклі з удзелам Таццяны Рыгораўны, а таксама вечар-бенефіс да юбілею артысткі з віншавальнымі эцюдамі ад акцёраў РТБД і нечаканымі тэатралізаванымі выступленнямі афіцыйных асоб.

*«Няхай гэта будзе весела!»* – сказала пра фармат свайго юбілею народная артыстка Беларусі Таццяна Мархель.

Дарэчы, у гледачоў ёсць магчымасць падтрымаць РТБД у сённяшні няпросты перыяд і набыць квіткі «на youtube-паказ спектакляў» на сайце ***bezkassira.by***.

**Галіна РУТ.**



СКАНДАЛ

# Лариса ГРИБАЛЕВА: «Меня оболгали»

*Певица и телеведущая с удивлением узнала, что перенесла шесть микроинсультов.*

*На одном из российских сайтов от имени белорусской артистки рекламируют препарат, который помогает не то от коронавируса, не то от гельминтов. В материале с громким названием «Как врачи едва не убили коронавирусом Ларису Грибалеву, пытаясь обогатиться на болезни известной телеведущей» певица якобы откровенно рассказывает журналисту о том, какие беды с ее здоровьем приключились в последнее время. И предлагает решать проблемы при помощи какого-то модного детокс-препарата, якобы рекомендованного белорусским Министерством здравоохранения.*

*В материале сообщается, что препарат можно купить за 5 белорусских рублей, оставив заявку прямо на сайте. В тексте есть приписка: мол, «ввиду нехватки объемов препарата, государственная программа будет действовать до 19 мая 2020 года включительно, после чего ее приостановят на неопределенный срок. До этого момента каждый житель Беларуси может получить «Детокс», заполнив форму прямой заявки». Любопытно, что дата, до которой можно купить препарат, каждый день меняется.*

*«Я никогда не давала такого интервью! Никогда не говорила этой чуши!» – говорит Лариса Грибалева.*



«Сама в шоке! Мошенники в сети продают лекарственный препарат от COVID-19 и всех болезней за 5 рублей, – *справедливо возмущается Лариса Грибалева*. – Все бы ничего, но делают они это от моего имени!

Вижу и слышу про это «чудо-средство» впервые, не пробовала на себе и уверена, что это полный развод! Я никогда не давала интервью анонимному корреспонденту.

Ссылку на эту статью мне прислали в директ. Сегодня он весь завален сообщениями неравнодушных подписчиков. Большое им за это спасибо!

Большинство людей не верят написанному и считают это фейком. И это действительно так!

Но есть сомневающиеся и даже те, кто поверил!

Мне друзья, обеспокоенные моим состоянием здоровья, даже из Америки звонили!

Люди спрашивают, советую ли я это уникальное средство от коронавируса и всех болезней, пользуюсь ли им сама.

Нет! Нет! И еще раз нет! Никогда и никому не советую!

Раньше мои фото уже приклеивали к разным препаратам для похудения. Но интервью с такими подробностями и комментариями от моего имени под статьей – это впервые.

Больше всего разозлила цитата, что я пережила шесть микроинсультов…

Призываю всех внимательнее относиться к рекламным лозунгам «Быстро! Дешево! По почте!».

Если это касается вашего здоровья, быстро и дешево тут не бывает. Берегите себя!»

Стоит заметить, что это не первая подобная наглая реклама, в которой используются имена известных персон. На том же сайте висит почти аналогичная реклама, где интервью «дают» телеведущие **Алена Спиридович** и **Светлана Боровская**, которые также ничего подобного не делали. Но для мошенников это не имеет значения – они просто используют раскрученные звездные имена.

В соцсетях Ларисе Грибалевой рекомендуют наказать мошенников и обратиться в управление по раскрытию преступлений в сфере высоких технологий Министерства внутренних дел.

Артистка рассказала, что позвонила по указанным на сайте номерам телефонов, представилась и потребовала убрать материал. Однако результата это не принесло.

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

ЕСТЬ ВОПРОС!

## Какой хлеб купить?

*Вот что рекомендует белорусский диетолог **Марта Марудова**.*

### «Читать состав – обязательно!»

✓ Мука должна быть не высшего сорта, а обойная, сеяная, обдирная, цельнозерновая и т.д.

✓ Отруби в составе – хорошо, так как они не усваиваются организмом и таким образом снижают калорийность продукта.

✓ Дрожжи (особенно в конце списка) – тоже не криминал, ведь они погибают при высокой температуре приготовления хлеба. (Кстати, дрожжи есть еще в вине, пиве, квасе.)

✓ Добавки в виде семечек, орехов, сухофруктов, цукатов вкусно, конечно, но… значительно увеличивают калорийность и ухудшают состав.

✓ Батон (если уж совсем без него жить на можете) лучше выбирать «пушистый» нарезанный тостовый, чем обычную «мелкопузырчатую» буханку или багет, так как он легче и калораж стандартного кусочка меньше.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Уладзімір ШАНТАРОВІЧ:

# «Няма гарантыі, што і ў наступным годзе пройдзе Алімпіяда...»

*Галоўны трэнер зборнай Беларусі па веславанні на байдарках і каноэ распавёў «Народнай Волі» пра тое, чаму «сёння не варта апускаць рукі».*



Чатыры гады таму падначаленыя **Уладзіміра Шантаровіча** на Алімпіяду не патрапілі, і гісторыя была, мякка кажучы, непрыгожая.

Вясной 2016 года пры падрыхтоўцы да Гульняў у Рыа-дэ-Жанейра зборная Беларусі паехала на трэніровачны збор у Францыю. Далей падзеі разгортваліся, як у дрэнным кіно: падазрэнні ў захоўванні і ўжыванні забароненых прэпаратаў, жорсткі вобшук...

У выніку Міжнародная федэрацыя каноэ дыскваліфікавала нашу нацыянальную каманду на год. Адпаведна, на Гульні зборная не паехала, хаця мела рэальныя шанцы на некалькі медалёў. У тым ліку і залатых.

А ў студзені 2017 года Міжнародны арбітражны спартыўны суд у Лазане цалкам апраўдаў зборную Беларусі і зняў з яе дыскваліфікацыю. Аднак, як кажуць, цягнік ужо сышоў.

Галоўны трэнер беларускай каманды Уладзімір Шантаровіч не хаваў эмоцый, калі каментаваў гэтую справу, і называў тых, хто яе арганізаваў, *«злачынцамі»*.

*«Паруціліся канкурэнты»*, – выказваў меркаванне Уладзімір Уладзіміравіч. І дадаваў, што зборная возьме сваё на наступнай Алімпіядзе ў Токіа.

Але зноў не склалася. Як вядома, Гульні-2020 з-за пандэміі каранавіруса перанесены як мінімум на год...

– Нягледзячы на ўсе выклікі лёсу, каманда зараз праводзіць на вяслярнай базе ў Мазыры цэнтралізаваную падрыхтоўку, – кажа **Уладзімір Шантаровіч**. – Працуем, як звычайна, без нейкіх паслабленняў.

**– Міжнародных спаборніцтваў пакуль не прадбачыцца?**

– Так, бо нават межы закрыты. Але ў любым выпадку напрыканцы гэтага месяца Міжнародная федэрацыя каноэ афіцыйна нам паведаміць пра тое, што чакае каманды ў бліжэйшай перспектыве.

Усё будзе залежаць ад каранавіруса, бо зараз усе дарослыя спаборніцтвы, а таксама маладзёжныя і юнацкія адменены.

Магчыма, калі сітуацыя нармалізуецца, у гэтым годзе правядуць чэмпіянат свету па неалімпійскай праграме, але гэта, як кажуць, віламі па вадзе пісана.

**– А ўнутраныя спаборніцтвы пройдуць?**

– Мы рыхтуемся і да чэмпіянату краіны, і да Кубка Беларусі.

**– Колькі медалёў планавалі заваяваць на Алімпіядзе ў Токіа?**

– Задача была выйграць не менш за тры ўзнагароды.

**– Крыўдна, што мы зноў «праплываем» міма Гульняў?**

– Дык «праплываем» не толькі мы. Крыўдна венграм, палякам, французам, спартсменам з Германіі. Але жыццё на гэтым не заканчвецца, не варта апускаць рукі. Калі моцныя, то выжывем. А калі ты слабы – сядзі на канапе, абурайся, і больш ад цябе нічога не патрабуецца.

Таму будзем настройвацца на новую схему работы. Няма ж стопрацэнтнай гарантыі, што і ў наступным годзе Алімпіяда адбудзецца. Думаю, і Міжнародная федэрацыя каноэ, і Міжнародны алімпійскі камітэт разглядаюць розныя варыянты развіцця падзей. Сітуацыя ж з пандэміяй пакуль не вырашана.

А нам застаецца толькі спадзявацца на лепшае і працаваць. Не будзе Алімпіяды ў Токіа – дачакаемся Гульняў у Францыі. Ніхто не памёр – ужо добра. Жыццё працягваецца.

**– Заробкі для трэнераў і спартсменаў у такой сітуацыі захоўваюцца?**

– Пакуль у дыяпазоне гэтага года ўсё захавалася на ранейшым узроўні. Што далей? Я не ведаю. Напэўна, спартсмены выступяць на чэмпіянаце Беларусі, пакажуць пэўныя вынікі, ад якіх і будуць адштурхоўвацца пры вызначэнні будучых заробкаў.

Вядома, што ў спартсменаў аплата працы залежыць ад паказаных вынікаў, а таму былыя пераможцы Алімпіяды ўзнагароджаныя. Што і можна будзе зрабіць падчас нацыянальнага першынства.

**– У камандзе ўсе здаровыя?**

– Дзякуй Богу, праблем ні ў кога няма.

**Алесь СІВЫ.**

МАЗАІКА

## Вольга Корбут адсвяткавала юбілей

*У мінулыя выхадныя славутай беларускай гімнастцы споўнілася 65 гадоў.*



*«Вашы дасягненні на гімнастычным памосце ўвайшлі ў гісторыю сусветнага спорту,* – павіншаваў спартсменку Нацыянальны алімпійскі камітэт. *– У 17 гадоў вам удалося заваяваць тры залатыя медалі на Алімпійскіх гульнях у Мюнхене, а праз чатыры гады – зноў падняцца на верхнюю прыступку алімпійскага п'едэстала ў Манрэалі. За гады кар'еры вы па праве заслужылі званне адной з найвялікшых спартсменак XX стагоддзя».*

Нагадаем, што зараз Вольга Корбут жыве ў ЗША, хаця зрэдку і наведваецца ў Беларусь.

## Канадскі трэнер патрабуе грошай

Былы настаўнік хакейнага мінскага «Дынама» Гордзі Дуаер судзіцца з беларускім клубам.

У 2018 годзе сталічныя «Зубры» пад кіраўніцтвам канадскага спецыяліста паказвалі не самую лепшую гульню – выдалі рэкордную серыю паражэнняў з 11 матчаў. Пасля гэтага клуб скасаваў кантракт з Дуаерам, была інфармацыя, што з канадцам да канца не разлічыліся.

Днямі генеральны дырэктар мінскага «Дынама» Дзмітрый Баскаў распавёў pressball.by, што паміж клубам і былым галоўным трэнерам сапраўды існуюць пэўныя фінансавыя рознагалоссі, разгляд гэтай справы зараз ідзе ў судзе. Вердыкт пакуль не вынесены.

ШАХМАТЫ

## Ёсць «бронза»!

Завяршыўся традыцыйны Кубак гарадоў-герояў па шахматнай кампазіцыі, прысвечаны 75-годдзю Перамогі. У складзе васьмі каманд выступалі 42 складальнікі задач і эцюдаў, у тым ліку 11 гросмайстраў. У кожным з шасці раздзелаў каманда магла прадставіць дзве кампазіцыі, з якіх у залік ішла лепшая. Дарэчы, арбітры спаборніцтва былі з ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі, Славакіі і Македоніі. У склад аб'яднанай каманды горада-героя Мінска і Брэсцкай крэпасці-героя, якая выступала за Беларусь, уваходзілі **Віктар Зайцаў** (капітан), **Міхаіл Храмцэвіч**, **Віктар Волчак**, **Мікалай Бельчыкаў**, **Міхаіл Кошаль**, **Чэслаў Якубоўскі**, **Мікалай Быкаў**, **Вячаслаў Красічонак**, **Іван Бондар** і **Аляксандр Варыцкі**.

У раздзеле трохходовак 2-е месца заняла задача М.Храмцэвіча і В.Волчака, трэцяе – М.Храмцэвіча, В.Волчака, М.Быкава і В.Красічонка. Сярод шматходовых задач твор В.Волчака падзяліў 3–5-е месцы. У раздзелах двухходовак, эцюдаў, кааператыўных і зваротных матаў задачы беларусаў у прызавую тройку не трапілі, але таксама прынеслі заліковыя балы ў агульную капілку каманды.

У выніку беларуская зборная заняла ганаровае 3-е месца з 15,2 бала, прапусціўшы наперад толькі першую і другую каманды Масквы (адпаведна 18,6 і 17,4 бала). На наступных месцах: 4.Мурманск – 15 балаў; 5.Керч – 14,4; 6.Тула – 13,4; 7–8.Валгаград, Санкт-Пецярбург – па 13 балаў.



Аўтар двухходоўкі з гэтага спаборніцтва ***(гл.дыяграму)*** – Міхаіл Храмцэвіч.

**Белыя:** Кре8, Фf8, Лb3, Cd6, Ch1, Ка6, Kd2, пп. e4, e7, f2, g7 (11).

**Чорныя:** Kpd4, Лс1, Ch7, Kc3, Kg4, пп. a5, d3, e2, g6 (9).

**Мат за 2 хады.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі ***(220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а)*** або на электронны адрас: ***vadim_ne67@mail.ru.***

## Аналітычны твор

А вось эцюд, які склала беларуская каманда.

***Іван Бондар, Міхаіл Храмцэвіч***

**Белыя:** Kph2, Kb4, пп. a3, a6 (4).

**Чорныя:** Kpe5, Лf7, пп. b5, c4, c7, h4 (6).

**Выйгрыш.**

1.a7! *(1.Kc6+? Kpd6! =)* Лf2+! 2.Kpg1! *(2.Kph1? Лf8! 3.Kc6+ Kpf4! або 2.Kph3? Лf3+ 3.~ Л:a3 з перавагай чорных)* Лf8 3.Kc6+ Kpf4! 4.Kb8 Kpg3! *(4...c3? 5.a8Ф c2 6.Фc6!)* 5.a8Ф h3 6.Фh1! *(6.Ф~?? h2+ 7.Kph1 Лf1x)* Лf2! *(6...c3? 7.Фh2+!)* 7.Ф:h3! Kp:h3 8.Kp:f2 Kpg4! 9.Ka6! *(9.Kpe3? c5! 10.Ka6 Kpf5 11.K:c5 Kpe5 12.Ke4 Kpd5 13.Kc3+ Kpc5 14.Ka2 Kpb6 15.Kpd4 Kpa5 16.Kpc3 Kpa4 17.Kpb2 Kpa5 з пазіцыйнай нічыёй, 9.Kc6? Kpf4! 10.Kpe2 Kpe4! =)* c6! *(9... Kf4 10.K:c6)* 10.Kpe3 Kpf5 11.Kpd4 c3! 12.Kb4! Kpe6 13.Kpc5 Kpd7 14.K:c6! *(14.Kc2? Kpc7! 15.Kd4 Kpb7 16.K:c6 c2 17.Ka5+ Kpa6 18.Kb3 c1Ф+ 19.K:c1 Kpa5 20.~ Kpa4 21.~ Kp:a3 =)* c2 15.Ke5+ ~ 16.Kd3 з выйгрышам.

## Седзячы дома...

Ва ўмовах пандэміі чэмпіён свету **Магнус Карлсен** зладзіў у інтэрнэце анлайн-турнір васьмі мацнейшых гросмайстраў па хуткіх шахматах з прызавым фондам 250 тысяч долараў. Удзельнікі змагаліся па кругавой сістэме, а потым чацвёрка лепшых згуляла матчы плэй-оф. М.Карлсен спачатку заняў 3-е месца, але пасля перамог у паўфінале і фінале і заваяваў галоўны прыз. Вось дзве партыі з гэтага турніру.

***Магнус Карлсен – Аніш Гіры***

1.d4 Kf6 2.c4 e6 3.Kf3 d5 4.Kc3 Cb4 5.cd ed 6.Cf4 Ke4 7.Лc1 Kc6 8.Kd2 g5 9.Ce3 K:c3 10.bc Ca3 11.Лb1 f5 12.g3 Cd6 13.Лg1 0-0 14.h4 f4 15.gf g4 16.Лb5 Ke7 17.f5 h5 18.Cg5 c6 19.Лb2 Л:f5 20.e4 Л:g5 21.hg Kg6 22.e5 Cf8 23.Cd3 Kf4 24.Kf1 Ф:g5 25.f3 K:d3+ 26.Ф:d3 Фc1+ 27.Kpf2 Ф:b2+ 28.Kd2 Cf5 29.Ф:f5 Ф:d2+ 30.Kpg3 Ф:c3 31.Kph4 Ф:d4 32.Лg3 Cg7 33.f4 Лf8, 0:1.

***Магнус Карлсен – Дзін Ліжэнь (паўфінал)***

1.d4 Kf6 2.Kf3 d5 3.Cf4 e6 4.Kbd2 c5 5.e3 Фb6 6.Лb1 Cd6 7.c3 cd 8.cd C:f4 9.ef Kc6 10.Kb3 a5 11.a3 a4 12.Kc1 Cd7 13.Ka2 Ke4 14.Kc3 Фc7 15.g3 K:c3 16.bc Ka5 17.Лc1 Kb3 18.Лc2 Фd6 19.Cd3 Ф:a3 20.0-0 f6 21.Лe1 0-0 22.Фb1 Фd6 23.Лce2 h6 24.f5 ef 25.Kh4 Лae8 26.K:f5 C:f5 27.Л:e8 Kd2 28.Л:f8+ Kp:f8 29.Ф:b7 Kf3+ 30.Kph1 K:e1 31.C:f5 Kf3 32.Cg6 Kg5 33.Фc8+, 1:0

## Партыю даслаў чытач

Наш сталы чытач і адданы прыхільнік старадаўняй гульні **Славамір Буката** паспаборнічаў з шахматным сімулятарам «Chessmaster10» і перамог яго.

***Славамір Буката – «Chessmaster10»***

1.e4 e6 2.d4 d5 3.Kc3 de 4.K:e4 Kd7 5.Cd3 Kgf6 6.Kg5 c5 7.K1f3 h6? 8.K:e6 Фe7 9.0-0 fe 10.Cg6+ Kpd8 11.c4 cd 12.Cf4 e5 13.Лe1 Kg4 14.Cg3 Фd6 15.Фc2 Фb6 16.Фf5 Kdf6 17.K:e5 K:e5 18.Ф:e5 Cd7 19.Лad1 Cb4 20.Лe2 Фc5 21.Фf4 Ф:c4 22.Лc2 Фe6 23.Ф:d4 Ca5 24.Фc5 Cb6 25.Cc7+ C:c7 26.Ф:c7+ Kpe7 27.Фc5+ Kpd8 28.Cf5, 1:0.

## Праверце адказы

Задача М.Бельчыкава і М.Быкава, змешчаная ў «Народнай Волі» 5 мая, рашаецца: **1.Фc4!** (не рашае 1.Ф:d7? Cd6! або 1.Фe3? Лf4!). У пазіцыі з партыі белыя перамаглі шляхам **1.Ф:b5!** (калі 1...Ф:b5, то 2.C:f6 Лe1+ 3.Л:e1 Фc6 4.g5 з непазбежным матам, а калі 1...Фe3, то 2.Ф:e8+).

Першымі правільна рашылі **Мікалай Шклярэўскі**, **Ігар Ананіч**, **Славамір Буката**, **Сяргей Галкін**, **Васіль Жуковіч**, **Віктар Жук**.

**Вадзім ЖЫЛКО.**

ФУТБОЛ

## БАТЭ ўмацоўвае пазіцыі

*Адбыліся матчы 9-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) – «Гарадзея» – 3:1, «Энергетык-БДУ» – «Дынама» (Брэст) – 2:1, «Шахцёр» (Салігорск) – «Славія» (Мазыр) – 2:0, БАТЭ (Барысаў) – «Слуцк» – 3:0, «Белшына» (Бабруйск) – «Віцебск» – 1:1, «Дынама» (Мінск) – «Іслач» (Мінскі раён) – 1:0, «Рух» (Брэст) – «Смалявічы» – 0:0.

Дарэчы, Беларуская федэрацыя футбола прыняла рашэнне аб пераносе матча гэтага тура паміж «Мінскам» і гродзенскім «Нёманам» на больш позні тэрмін у сувязі з тым, што ў футбалістаў «Мінска» падазрэнне на наяўнасць каранавіруса.

Фота: fcbate.by.



### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БАТЭ | 9 | 6 | 1 | 2 | 19–9 | 19 |
| Тарпеда-БелАЗ | 9 | 5 | 3 | 1 | 12–5 | 18 |
| Энергетык-БДУ | 9 | 6 | 0 | 3 | 12–9 | 18 |
| Слуцк | 9 | 5 | 1 | 3 | 15–14 | 16 |
| Шахцёр | 9 | 4 | 3 | 2 | 11–3 | 15 |
| Іслач | 9 | 5 | 0 | 4 | 11–13 | 15 |
| Дынама (Бр) | 9 | 4 | 1 | 4 | 12–10 | 13 |
| Рух | 9 | 3 | 4 | 2 | 7–5 | 13 |
| Дынама (Мн) | 9 | 4 | 0 | 5 | 12–10 | 12 |
| Віцебск | 9 | 3 | 3 | 3 | 7–9 | 12 |
| Славія | 9 | 3 | 2 | 4 | 10–14 | 11 |
| Гарадзея | 9 | 3 | 2 | 4 | 6–10 | 11 |
| Мінск | 8 | 3 | 1 | 4 | 12–16 | 10 |
| Нёман | 8 | 2 | 2 | 4 | 9–11 | 8 |
| Смалявічы | 9 | 0 | 4 | 5 | 6–14 | 4 |
| Белшына | 9 | 0 | 3 | 6 | 7–16 | 3 |

КРЫЖАВАНКА

## «Хай свеціцца імя тваё, Беларусь!»

*Каханне, любоў да Беларусі, да маці, да роднай мовы ў вершах народнага паэта Беларусі **Рыгора Барадуліна**.*



**Па гарызанталі:** 1.«... хараства, я верны ваш халоп, // Капрызаў Вашых неадступны лёкай» – з песні «... хараства» на словы Р.Барадуліна (музыка А.Камоцкага). 8.Японскае нацыянальнае адзенне. 9.Раённая газета (разм.). 10.Для добрага ката і ў лютым ... (прык.). 13.Калі зімой ..., то летам раса (прыкм.). 14.«Зямлю бацькоў // Я так люблю, // Што ненавідзець // Маю ... !» – з верша Р.Барадуліна «Зямля бацькоў». 15.«Пакуль каханая – // Сусвет перапаўняе . // А знелюбее – засланяе ...» – з верша «Кветкай цвіце...». 18.«За Вамі я ішоў на ... зямлі // На выспу сноў, што звалася каханнем» – з верша «Вы мне жыццём і забыццём былі». 19.Лютыбацюхна з зімы ... збівае (прык.). 22.«Каб сам сабою стаў народ, // Пачуўшы ... роднай мовы» – з верша «Роднаму слову». 23.«А ... даганяла зіму; // Заяц скочыў у лужу блакіту» – з верша «Уцякала зіма ад вясны». 25.Мучны выраб, сімвал вясенняга сонейка. 29.Каханая, любая (разм.). 31.«... не забаўка», «Ці пазяхае бегемот», «Кобра ў торбе» – зборнікі вершаў для дзяцей Р.Барадуліна. 32.Грамадскі дзеяч – выбітны аратар і публіцыст. 33.Тое, што набыта.

**Па вертыкалі:** 1.Імя маці Р.Барадуліна, якой ён прысвяціў шмат твораў. «Пакінула мне на зямлі // цяпло // ... Андрэеўна, вогнепаклонніца» – з верша «Вогнепаклонніца». 2.Люты – ... звярыных вяселляў (прык.). 3.«Разгарнуць твае чорныя ... , // Цалаваць а паўночнай цішы» – з верша «Эрас і Псіхея» паэта, каталіцкага святара Казіміра Сваяка, які вёў набажэнствы на беларускай мове і адчыняў на Астравеччыне беларускамоўныя школы; 19 лютага – 130 гадоў з дня яго нараджэння. 4.Раздзел кнігі. 5.Яравая пшаніца (разм.). 6.«Бяліла ... на світку Каліноўскаму // І ў сны Ўрублеўскага ты Нёманам плыла» – з верша Р.Барадуліна «Мая Бацькаўшчына». 7.«Хай свеціцца імя тваё, Беларусь !» – з верша паэта «... наступнасці». 11.«Ты – ... , ты нашых краёў, // Арыстакратка кахання» – з верша «Арыстакратка». 12.«... ад маці» – кніга вершаў паэта, у якой ён услаўляе тры святыні: Маці, Мову і Малітву. 16.Літаратурны твор алегарычнага зместу. 17.«І вы прыходзілі парою ў сны, // Далёкая, як ... трапяткая» – з верша «Раманс». 20.Тое, што і ўзгорак. 21.«Жвірынкі лірыкі на дне // Ракі // Па імені ...» – з верша «Жвірынкі лірыкі на дне». 24.«Дык шануй, беларус, сваю мову, – // Гэты ... наш на вечныя годы» – з верша А.Гаруна «Ты, мой брат, каго завуць беларусам». 26.Паданне пра якую-небудзь падзею. 27.«Хай беларус беларуса // Будзе любіць як брата. // Светлая імем Ісуса // Наша крывіцкая ...» – з верша Р.Барадуліна «Маленне за Беларусь». 28.«Помніць кожнай масніцы спеў, // Кожны ... у прыціхлай хаце» – з песні «Трэба дома бываць часцей» на словы Р.Барадуліна (музыка І.Лучанка). 30.«Ды калі ты не бязродны ... – // Гавары са мной па-беларуску» – з верша Я.Янішчыц «Будзе слоту абвяшчаць прагноз».

### Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 1.Княгіня. 8.Кімано. 9.Раёнка. 10.Сакавік. 13.Іней. 14. Права. 15.Свет. 18.Край. 19.Рогі. 22.Гукі. 23.Вясна. 25.Блін. 29.Каханка. 31.Азбука. 32.Трыбун. 33.Здабыча.

**Па вертыкалі:** 1.Акуліна. 2.Час. 3.Косы. 4.Глава. 5.Ярка. 6.Лён. 7.Малітва. 11.Беларуска. 12.Евангелле. 16.Байка. 17.Зорка. 20.Пагорак. 21.Жанчына. 24.Скарб. 26.Сказ. 27.Хата. 28.Кут. 30.Сын.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**

*г.Дзяржынск.*

МАЗАІКА

## Ізноў гульня...

*Чэмпіянат Беларусі па хакеі на траве працягнецца ў чэрвені.*

Як стала вядома, жаночае першынство працягнецца 5–6 чэрвеня. Камандам засталося згуляць шэсць тураў, пасля чаго чатыры лепшыя дружыны будзе чакаць серыя плэй-оф: у паўфінальнай серыі для выхаду ў фінал трэба атрымаць дзве перамогі, у фінальнай – тры перамогі.

Мужчыны пачнуць спаборніцтвы 6–7 чэрвеня. Ім трэба згуляць шэсць тураў, пасля чаго чатыры лепшыя каманды таксама сустрэнуцца ў паўфінальнай і фінальнай серыях.

На пачатку красавіка чэмпіянат Беларусі быў прыпынены з-за каранавіруса.

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. 220013, Мінск, пр-т Незалежнасці, 79/1. Падпісана ў друк 18.05.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 21 611 экз. Заказ № 1524.